


БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 36 (13568)

31 жніўня— 6 верасня 1992 года

Кошт 3 рублі.




## Які цудоўны сёння дзень! А заўтра?

Днямі зайшла да сваёй суседкі — маладой настаўніцы замежнай мовы — і між іншым пацікавілася яе настроем з нагоды новага навучальнага года.

— А што? Нармальны настрой. Нават цудоўны. Нарэшце і настаўнікам далі магчымасць нядрэнна зарабіць. Глядзі— нават паспела пашыць сабе новы касцюм па "Бурдзе". Мой дзесяты будзе "ў адпадзе". І ўвогуле — якія праблемы могуць быць 1-га верасня? Яны пачнуцца 2-га.

Дома я пазваніла знаёмаму васьмікласніку і задала тое ж самае пытанне. Ігар, сур'ёзны і паважны хлапец, амаль выдатнік, адказаў:

— Чакаю 1-га верасня з нецярпеннем... Вельмі сумую без сваіх аднакласнікаў. Цікава, хто і ў які бок змяніўся за лета. Школа для мяне — гэта месца зносін з неардынарнымі людзьмі, маімі сябрамі. Ну і, безумоўна, сяброўкамі.

Вырашыла больш нікому не званіць, але (ну зусім выпадкова!) сустрэла маму адной маленькай яшчэ вучаніцы. Мама цягнула вялікія клункі. "А скажыце..."— толькі пачала я і ўжо ўсё зразумела па яе стомленым твары.

— Напярэдадні 1-га верасня мне хочацца купіць білет і з'ехаць на далёкую Поўнач, ці Поўдзень — усё адно (смяецца). Безліч праблем. Цэны на школьныя прылады разлічаныя, хіба што, на дзяцей спекулянтаў, прабачце, бізнесменаў. Шэсць каляровых алоўкаў — сорак рублёў!.. Цярпець не магу жнівень. А 1-га верасня люблю. Гэта — як Новы год. Чакаеш, спадзяешся, будуеш планы. І заўважаеш, што дачка стала больш дарослай, і клянеш сябе, што не купіла форму на памер больш.

Мне спадабаліся ўсе тры адказы менавіта тым, што яны — натуральныя. І што ніхто не стаў пускаць мне пыл у вочы наконт "імкнення да ведаў" і "карысці для грамадства". Не крывіць душой, не баяцца гаварыць праўду, быць унутрана свабодным і раскаваным — ці не да гэтага, дарэчы, павінны імкнуцца ўсе нашы, разам узятыя, "беларускія" і "рускія", гарадскія і вясковыя, паказальныя і не вельмі — школы? І як бы ні называлі іх сёння — ліцэямі ці гімназіямі, сутнасць Школы застаецца нязменнай: сеяць разумнае, добрае, вечнае.

Цяжкасці сапраўды пачнуцца з 2-га. Дырэктар з падвоенай упартасцю возьмецца шукаць "беларусічку" на ўсё яшчэ вакантнае месца. Бацькі будуць "асаджаць" класных кіраўнікоў і скардзіцца, што іх нашчадкі нічога не разумеюць на "гэтай мове". Настаўнікі саб'юцца з ног у пошуках новых падручнікаў і дапаможнікаў... І г.д., і г.д. Школа, як гумка, убірае ў сябе ўсе нявырашаныя праблемы грамадства.

Але — хаця б у гэты дзень — не будзем пра сумнае. Чырваназменаўцы шчыра віншуюць усіх педагогаў, вучняў і бацькоў з новым навучальным годам.

С. КАРПЕНКА.

*"Чырвоная змена"-93*

## Зваротная сувязь

Мы шчыра дзякуем тым з нашых чытачоў, хто не проста гартае старонкі "Чырвонай змены", але і выказвае свае меркаванні, згоду ці нязгоду з поглядамі нашых аўтараў. Сапраўды, як ацаніць вынікі працы журналіста інакш, чым паводле чытацкіх лістоў? Жывая сувязь газеты і чытача – не проста штампаваны выраз, не проста агульная фраза ў падручніку па журналістыцы застойных часоў. Штодня з розных мясцін Беларусі, ды й не толькі яе, пошта нясе нам і спадзяванні, і крыўду – наогул, адлюстраванне лёсаў чалавечых. Усё гэта – матэрыял, з якога робіцца газета. Мы проста падводзім вынікі жыцця, бо газета – дзённік, дзённік планеты, краіны, горада... чалавека.

"Чырвонка" ведала розныя часы. І гераічныя, і трагічныя, і застойныя. Шмат на што глядзім мы цяпер іншымі вачыма, пазбаўленымі ружовых акуляраў (а мо чорных?). Хаця не ў нашых магчымасцях адлюстраваць усе перыпетыі вельмі складанага, насычанага падзеямі часу, мы імкнёмся ўлоўліваць галоўнае. Як гэта атрымліваецца – меркаваць Вам, нашы чытачы.

Не ў звычцы рэдакцыі хваліцца на ўсю Беларусь, альбо плакацца ў камізэльку чытачам. Становішча з маладзёжнай прэсай ведаюць усе. Камсамол (цяпер проста – Самол?), на які ў свой час было намі выліта не адна тона ялею, зняў з сябе адказнасць цалкам. Вядома – самому б утрымацца. Дзяржава, дзякуй ёй, падтрымала. Але ж вякамі такая падтрымка доўжыцца не будзе!

Навошта перапалапачваць праблемы? Яны ў наяўнасці, спрачацца не прыходзіцца. Але ёсць спадзяванні, ёсць планы, ёсць, і гэта ў першую чаргу, сэнс нашай працы. Інакш – навошта працаваць? Навошта марнаваць час на гістарычныя параўнанні, шукаць паралелі паміж сучаснасцю і гісторыяй, ствараць дзённік Беларусі? Мы – на вастрыні. Сюды паставіў нас час, нашы перакананні, нашы надзеі. Імі мы хочам шчыра дзяліцца з чытачамі, выклікаць спрэчкі, дыскусіі, згоду адных і супярэчанне іншых. На тым стаім!

Пішыце нам. Не цячэ вада пад ляжачы камень!

Алесь ПАЛЫНСКІ,
рэдактар аддзела пісем
і сацыяльных праблем.

P.S. Нагадваем падпісны кошт "ЧЗ"
на месяц – 18 рублёў,
на тры месяцы – 54 рублі,
на паўгода – 108 рублёў.
Падпіска – толькі ў аддзяленнях сувязі.
Па ўсіх пытаннях звяртайцеся па тэлефонах: 32-13-04, 32-13-54.

*Стоп-факт*

### ПІЯНЕРЫЯ? ЖЫВЕ!

Пасля ўсіх паваротаў лёсу Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя імя У.І.Леніна аказалася, як гэта ні дзіўна, самай жывучай у параўнанні з яе старэйшымі сябрамі — камсамолам і Камуністычнай партыяй. Год назад колькасць юных ленінцаў была каля 600 тысяч. Сёння гэта лічба стала, вядома, меншай. Многія школы (асабліва гарадскія) поўнасцю адмовіліся ад чырвоных гальштукаў, піянерскіх барабанаў і горнаў. І ўсё ж, як паведамілі ў Рэспубліканскім савеце Беларускай піянерскай арганізацыі, справу Леніна працягваюць падтрымліваць каля 20 працэнтаў дзяцей. Лічба, як бачым, даволі значная. І гэта, калі гаварыць сумленна, радуе. Таму што, пакуль не знойдзена замена піянерскай арганізацыі, яна павінна існаваць.

На жаль, у маленькіх піянераў існуюць "дарослыя" праблемы, забеспячэнне існуючых атрадаў новай атрыбутыкай. Зараз набыта 10 тысяч пластмасавых піянерскіх значкоў і заказана столькі ж металічных (кошт аднаго значка, дарэчы, даволі вялікі — 15 рублёў). Заказ на пашыў піянерскіх гальштукаў, які меркавалі даць Віцебскай швейнай фабрыцы, і ўвогуле пакуль што не можа быць выкананы: няма сыравіны. Справа па гэтаму пытанню ўскладняецца тым, што на адным з ражкоў чырвонага трохвугольніка павінна быць выява нацыянальнага арнаменту. Праўда, некаторыя дзеці знаходзяць выйсце з гэтага становішча, малюючы гэты арнамент самі на сваіх старых гальштуках. Праўда, далёка не ва ўсіх яны захаваліся. Адным словам, як бачым, дзеці не вельмі спадзяюцца на дапамогу дарослых.

### ВАЙСКОЎЦЫ: "УСЁ ДЗЕЦЯМ"

Да адпачынку беларускіх дзяцей за мяжой мы ўсе пакрысе пачалі ўжо прывыкаць. Але гэты адпачынак адрозніваецца ад астатніх. Чым? Ды хаця б тым, што на гэты раз у ролі "добрых дзядзькоў" аказаліся людзі, якія, па сутнасці, вельмі далёкія ад дабрачыннасці: вайскоўцы.

Урад ЗША аказвае дапамогу ў перавозцы 80 дзяцей з Беларусі ў Брусель для іх месячнага адпачынку. Гэтыя дзеці паехалі за мяжу не на аўтобусе ці цягніку як звычайна. 31 жніўня на бельгійскую зямлю іх даставіў самалёт Ваенна-Паветраных Сіл ЗША С-141. Хутчэй за ўсё, што такім жа чынам яны вернуцца ў канцы верасня дадому. Узрост дзяцей — ад 5 да 13 гадоў.

Хочацца дадаць, што сем'і, якія згадзіліся прыняць у сябе дзяцей, адносяцца да вышэйшага ваеннага ўпраўлення. Як бачым, вайскоўцы таксама пачынаюць глядзець на дзяцей як на нашу будучыню.

### З ХЛЕБАМ БУДЗЕМ. А З БУЛЬБАЙ?

Пасля вельмі спякотнага і сухога лета як вяскоўцаў, так і жыхароў горада цікавіць адно пытанне: ці будзем з ураджаем? Сонца загубіла амаль усё, на што былі накіраваны намаганні працаўнікоў калгасаў і саўгасаў.

Але як паведамілі ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Рэспублікі Беларусь, прагнозы па гэтаму пытанню даволі неблагія. Чакаецца, што ўраджай бульбы сёлета складзе прыкладна 95-110 цэнтнераў з гектара (што ненамнога менш, чым у мінулым годзе). Усяго трэба ўбраць 245 тысяч гектараў калгаснай і саўгаснай бульбы і 520 тысяч гектараў бульбы прыватнага сектара. Значна павышаны закупачныя цэны на познюю бульбу. Тая, што вывозіцца за межы рэспублікі, каштуе 10 тысяч рублёў за тону, што ідзе на харчовыя патрэбы — 8, а для вытворчасці спірту — 7 тысяч рублёў за тону.

Ураджай, як бачым, ёсць. Трэба толькі яго ўзяць. Для гэтага на дапамогу вёсцы будзе прыцягнуты 130 тысяч студэнтаў, рабочых і служачых. Дасць Бог, будзем з бульбай.




## УВАГА! УВАГА! УВАГА!

З 1 па 4 кастрычніка 1992 г. у Полацку адбудзецца фестываль дзіцячай творчасці "Восьмы колер вясёлкі", заснавальнікамі і арганізатарамі якога выступілі Полацкі гарадскі Савет народных дэпутатаў, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Беларусі, газета "Знамя юности", штотыднёвік "Чырвоная змена", культурна-спартыўны комплекс В/А "Шкловалакно".

Для ўдзелу ў фестывальных канцэртах запрошаны вядомыя калектывы і выканаўцы: дзяржаўны эстрадны ансамбль Беларусі "Песняры", група "Верасы", ансамбль народнай музыкі "Свята", тэатр песні Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча, Дзмітрый Малікаў, Міхаіл Баярскі, ансамбль "Сябры", арганістка Ксенія Пагарэлая, шоугрупа Бары Алібасава "На-На", група "Кампазіцыя" і іншыя вядомыя эстрадныя выканаўцы.

Мерапрыемствы ўсіх чатырох дзён будуць транслiравацца па праграмах Беларускага радыё і тэлебачання, асвятляцца ў рэспубліканскай прэсе.

Ад імя аргкамітэта і заснавальнікаў фестываль звяртаецца да ўсіх жадаючых з прапановай выступіць спонсарамі, мецэнатамі, фінансавымі арганізацыямі гэтага свята для дзяцей.

Хто жадае прыняць удзел у фестывалі, аказаць дапамогу, выказаць прапановы і пажаданні, звяртайцеся ў аргкамітэт фестывалю да выканаўчага дырэктара Аляксандра Рагачова па тэлефонах у Полацку: 4-20-24, 4-94-57, 4-41-66.

**Фестываль шукае спонсараў!**

*Вачамі разявакі*

## НЕГР! БУДЗЬ СЦІПЛЫ. ТУТ НЕ АФРЫКА

У нядзелю ўвечары вуліца Беларуская была ўзбуджана даволі цікавай для абывацеляў падзеяй: білі негра. Білі добра і "ад усёй душы". Гледачоў назбіралася нямала, але ніхто і не думаў заступацца за чарнаскурага: маўляў, давайце, хлопцы, пакажыце яму, што Беларусь для яго – не Афрыка.

А пачалося ўсё з-за звычайнай дзяўчынкі-прастытуткі (будзем называць рэчы сваімі імёнамі), сябрам якой не спадабаліся яе інтэрнацыянальныя парывы. Дзяўчынка не зразумела высакародных дзеянняў яе знаёмых і вырашыла, што адзінай дапамогай у гэтай справе будзе міліцыя.

Нарэшце, міліцыя з'явілася. Але, як аказалася, віноўных не было. А негр? Яму патрэбна была толькі "хуткая дапамога" (якая, дарэчы, у хуткім часе прапанавала афрыканцу свае паслугі). Путана пры падтрымцы іншых негрў пачала было абурацца, жадаючы, каб вінаватыя ў збіванні яе "каханага" былі пакараны. На што міліцыя, якую ў сваю чаргу падтрымлівалі беларусы, параіла: "Не вякай, шлюха! А то мы зараз цябе разам з тваімі чорнымі сябрамі пачастуем гумавай дубінкай". Прысутныя падтрымалі іх гучнымі апладысментамі.

Негры ж, якія да гэтага стараліся перакрычаць натоўп і абяцалі, што ўчыняць беспарадкі, як гэта было нядаўна ў Маскве, прыціхлі пасля гэтых слоў і, бармочучы нешта на сваім "тамбу-тамбу", пачалі разыходзіцца.

Зразумелі, відаць, што ў Беларусі трэба трымацца больш сціпла.

Франц ЛЯВІЦКІ.

*Правінцыяльная хроніка*

### ДРУГОЕ НАРАДЖЭННЕ ПОМНІКА

Погляды беларускіх гісторыкаў на падзеі Айчыннай вайны 1812 года цяпер дыяметральна супрацьлеглыя: адны сцвярджаюць, што беларусы разам з рускім народам вызвалялі агульную Радзіму ад французскай навалы, іншыя — што Беларусь змагалася на баку Напалеона за сваё вызваленне ад Расійскай імперыі. Але ніяк нельга адмаўляць той факт, што многія важнейшыя бітвы той далёкай вайны адбываліся на беларускай тэрыторыі. У прыватнасці, вядомая бітва на Брылёўскім полі ля Барысава, якая па свайму значэнню не ўступае Барадзінскай і нават пераўзыходзіць яе ў тым сэнсе, што "Маленькі карсіканец" пацярпеў тут такое паражэнне, ад якога ўжо не мог ачуняць.

Як бы там ні было, барысаўскія ўлады вырашылі ўзнавіць да 180-годдзя перамогі рускіх над французамі помнік на Брылёўскім полі (першапачаткова быў пастаўлен у 1912 годзе да стагоддзя перамогі) і стварыць тут мемарыяльны комплекс. Гэтыя работы закончацца ў кастрычніку, і тады сотні турыстаў з краін СНД і ўсяго свету змогуць убачыць манумент у гонар славянскай славы.

С.БУКАЦІЧ,
г.Барысаў.

### ГРОМ НАД "ГРУНВАЛЬДАМ"

У г. Паставы Віцебскай вобласці рашэннем выканкама райсавета за неаднаразовыя грубыя парушэнні падатковага заканадаўства спынена дзейнасць кааператываў "Ветэран" і "Грунвальд". Кааператары не ўспрынялі ўсур'ёз папярэджанняў і не выкарысталі час, дадзены ім для ліквідацыі недахопаў, за што і паплаціліся. Камерцыялізацыя нашага жыцця ўсё больш адчуваецца і на перыферыі. У тым жа Пастаўскім раёне замест двух закрытых кааператываў зарэгістравана адразу звыш дваццаці прыватных прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычных асоб. І што адметна, усе яны будуць займацца толькі гандлёва-закупачнай дзейнасцю. Падобна на тое, што сетка "камкоў" паступова перакідваецца і на большасць малых гарадоў Беларусі. Прадпрымальніцтвам жа ў вытворчай сферы, на жаль, займаюцца адзінкі. Ёсць тут над чым падумаць і маючым уладу, і нам, спажыўцам.

Сяргей ВІШНЕЎСКІ.

### ШКОЛЬНІКІ ВУЧАЦЦА БІЗНЕСУ

Зараз ужо нікога не здзівіш тым, што дзеці пачынаюць цікавіцца эканомікай. Адны асвойваюць азы бізнесу, маючы аўтамабілі замежнікаў, другія — працуюць на палетках калгасаў і саўгасаў... Але гэта ўжо практыка. А нехта свой шлях да рыначнай эканомікі пачынае с тэорыі. Менавіта пра такую падзею пойдзе гаворка.

З першага верасня ў Гомелі адчыніла дзверы новая навучальная ўстанова — эканамічны ліцэй. Дарэчы, ён першы ў Беларусі. Гэты ліцэй дасць школьнікам веды аб асновах рыначнай эканомікі, маркетынгу, менеджменту, падрыхтуе да знешнеэканамічнай дзейнасці.

Але не думайце, што трапіць у гэтую ўстанову могуць усе жадаючыя. Так, напрыклад, пры першым наборы ў ліцэй конкурс склаў 20 чалавек на месца. Тыя ж, каму пашчасціла, павінны заплаціць 12 тысяч рублёў за навучанне. Дакладней сказаць, плаціць будуць, канешне, не яны, а іх бацькі.

Што датычыць навучання, то яно абяцае быць на высокім узроўні. Таму што выкладаць у ліцэі будуць не толькі мясцовыя настаўнікі, але і выкладчыкі з ЗША, Германіі, Канады.

Будзем спадзявацца, што дзеці не падвядуць, і наша Беларусь у хуткім часе папоўніцца выдатнымі бізнесменамі.

Франц ЛЯВІЦКІ.




Першы Дзень
Premier Jour

*Атрыбуты дзяржаўнасці*

## БЕЛАРУСКІЯ МАРКІ? ЁСЦЬ!

31 жніўня ў абарачэнне на Беларусі паступілі дзве паштовыя беларускія маркі з выявамі беларускай нацыянальнай сімволікі.

Гэта вельмі прыемная падзея, асабліва калі ўлічыць той факт, што да гэтага часу беларускія паштовыя маркі выпускаліся толькі ў 1917-18 гадах. Праўда, у 1971 годзе таксама былі выпушчаны беларускія маркі (але ў Вялікабрытаніі, дзе яны і мелі хаджэнне).

А 31 жніўня стала сапраўдным святам для філатэлістаў Беларусі. Бо менавіта ў гэты дзень адбылося спецгашэнне на канверце першага дня, прызначанага для таго, каб прадставіць новыя маркі.

Адным словам, віншуем філатэлістаў і ўсіх грамадзян нашай рэспублікі з гэтай падзеяй.

*Вытрымкі з выступу доктара філалагічных навук, прафесара, прэзідэнта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адама МАЛЬДЗІСА на міжнароднай канферэнцыі "Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў"*

# ДОБРАЙ РАНІЦЫ, СОННАЯ НАЦЫЯ!

## Мы — беларусы. А вы?

Паважанае спадарства! Шаноўныя калегі! Дазвольце сардэчна прывітаць Вас ад імя ініцыятараў канферэнцыі — Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны! Асабліва радуе, што побач з беларускімі даследчыкамі і грамадскімі дзеячамі ў канферэнцыі прымаюць удзел вучоныя з Англіі, Аўстрыі, Германіі, ЗША, Канады, Польшчы, Расіі, Славеніі, Украіны, Швейцарыі, слухачы Міжнароднай школы беларусістаў, якая цяпер працуе пры Беларускім універсітэце, прадстаўнікі беларускага замежжа. Спадзяюся, што іх прысутнасць дабратворна паўплывае на наша абмеркаванне, дасць магчымасць больш аб'ектыўна вырашыць нашы надзённыя пытанні. Давайце прывітаем нашых гасцей!

Дазвольце таксама выказаць сардэчную ўдзячнасць тым, хто зацікаўлена дапамагаў нам у арганізацыі канферэнцыі, — Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрству адукацыі і асабліва мадазечанскім гарадскім уладам на чале са старшынёй і намеснікам старшыні гарсавета народнымі дэпутатамі Беларусі Генадзем Дзмітрыевічам Карпенкам і Віктарам Іосіфавічам Ганчаром, маладзечанскаму "Бізнес-цэнтру", Беларускаму інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, Радашковіцкаму заводу мастацкай керамікі, а таксама ўсёй мясцовай грамадскасці! У рэшце рэшт, тое, што міжнародная навуковая канферэнцыя па такой важнай праблеме адбываецца не ў сталіцы, не ў якім абласным цэнтры, а менавіта тут, мае свой сэнс. Маладзечаншчына дала Беларусі прарока нацыянальнага адраджэння Янку Купалу. Адсюль, ад Радашковічаў, шырылі грамадоўскі рух Браніслаў Тарашкевіч і Сымон Рак-Міхайлоўскі. Гэты рух не перапыняўся тут, спараджаў новых змагароў нават у самыя цяжкія гады таталітарызму. Таму і сёння Маладзечаншчына дае столькіх дзеячаў беларускай культуры, нацыянальнага адраджэння, многія з якіх сёння тут прысутнічаюць. Таму і ўзнікла ідэя правесці гэтую сустрэчу ў раённым горадзе, вонкава звычайным, адным з многіх. Але якраз у іх, а не ў сталіцы, не ў дэнацыяналізаваных дарэшты абласных цэнтрах сёння вырашаецца лёс беларускага адраджэння. І вельмі прыемна, што кіраўнікі горада гэта зразумелі, прыйшлі на дапамогу ініцыятарам канферэнцыі.

А цяпер — пра сутнасць, пра мэты сённяшняй канферэнцыі. Напярэдадні яе нам, ініцыятарам, не раз казалі, што ўзяліся мы за добрую, патрэбную справу, хоць і са спазненнем. Але даводзілася чуць і раздражненне, і неўразуменне: пра якое-такое адраджэнне нацыянальнай свядомасці збіраецеся вы яшчэ весці гаворку, калі вы, беларусы, ужо маеце сваю незалежнасць, калі ўжо ваш, беларускі, нацыяналізм сёння пагражае іншым насельнікам Беларусі? І, на першы погляд, такія нашы апаненты нібыта маюць рацыю. Сапраўды, Беларусь абвясціла свету пра свой суверэнітэт, і свет, дзесяткі краін, прызналі яго, а некаторыя нават гатовы лічыць Менск "усходнім Бруселем" ці "чацвёртым Рымам". Сапраўды, у нас прыняты закон пра дзяржаўнасць беларускай мовы, які не спадабаўся нават многім беларусам. Сапраўды, мы маем сваю гістарычную сімволіку, сваё войска, мытню і іншыя атрыбуты дзяржаўнасці. Вонкава гэта сведчыць ці павінна сведчыць, што ў беларусаў цяпер усё ў парадку, што настала пара трывожыцца іншым.

Аднак шматлікія факты (іх кожны дзень прыводзіць прэса) сведчаць, што найбольшыя падставы для трывогі маюць якраз самі беларусы. Наш суверэнітэт, наш дзяржаўны будынак сёння, бадай, ці не самы хісткі ў СНД, таму што трымаецца на няўстойлівым, расплывістым фундаменце, якім з'яўляецца нацыянальная самасвядомасць ці, дакладней, несвядомасць. Статыстычныя звесткі і сацыялагічныя апытанні сведчаць, што больш чым палова беларусаў не валодаюць роднай мовай, а ў сталіцы на ёй гавораць не больш як два працэнты жыхароў. Некалькі стагоддзяў яўнай і затоенай дэнацыяналізацыі з боку суседзяў прывялі да таго, што 74 працэнты апытаных беларусаў не маглі выказацца, што ім лепей: беларусізацыя ці поўная русіфікацыя.

Больш таго, як гэта ні парадаксальна, але пасля абвяшчэння суверэнітэту працэс дэнацыяналізацыі не толькі працягваецца, але і ўзмацняецца. Нават у часы таталітарызму ніхто не ставіў так пад сумненне само існаванне беларускай мовы, не называў яе "местным языком-диалектом", як гэта зрабіла 10 чэрвеня "Белорусская нива" ў артыкуле гісторыка Д.Сняткова. Наўрад ці ў якой іншай суверэннай краіне былі б мажлівымі, засталіся б беспакаранымі сцвярджэнні накшталт таго, што ў Беларусі "идея национального государства... просто абсурдна, ибо в основу ее заложена несуществующая нация" ("Витебский курьер", 12 сакавіка 1992 г.), што ў кожным выпадку, калі выказваецца трывога за лёс беларускай нацыі, "падымаюцца д'яблы" ("Добры вечар", 22 ліпеня 1992 г.). Наўрад ці які іншы народ дазволіў бы так публічна здзекавацца з беларускай дзяржаўнай сімволікі, як гэта сістэматычна робіць газета "Мы и время". А беларусы цярпяць — тут іх лепшыя нацыянальныя рысы (талерантнасць, ураўнаважанасць, паслухмянасць) пераходзяць у сваю іншую, адмоўную крайнасць. Праўда, такіх здзекаў не вытрымліваюць іншыя. Рускі настаўнік Павел Бузаў назваў іх у "Народнай газеце" 14 жніўня 1992 г. "глумлением над чувствами белорусского народа", "терроризированием его".

Гэтыя цытаты былі прыведзены тут не дзеля таго, каб павялічваць рахунак узаемных прэтэнзій і крыўдаў, а каб даказаць скептыкам, якія напэўна ж прысутнічаюць у зале, што тэматыка, выбраная для сённяшняй гаворкі, не з'яўляецца надуманай, што гэта — побач з эканамічнай, чарнобыльска-экалагічнай і іншымі нашымі бядотамі — адна з самых балючых і трагічных праблем беларускага народа. Трагічных — таму, што тут паўстае гамлетаўскае пытанне: быць або не быць. Давайце глядзець праўдзе ў вочы: беларусы яшчэ не сталі нацыяй у сённяшнім еўрапейскім сэнсе гэтага слова. Дзесяцігоддзі прымусу адкінулі іх свядомасць на ўзровень XIX, а то і XVIII стагоддзя. І калі мы не адродзімся, не ўмацуем наш нацыянальны фундамент, то наша тысячагадовая і адначасна такая маладая, такая кволая дзяржава, пазбаўленая рацыі быцця, будзе падзелена паміж суседзямі або распадзецца на шэраг утварэнняў на "яцвяжскім", "дрыгавіцкім" ці "прыдняпроўскім" узроўні. У лепшым выпадку гэта адбудзецца спакойна, пры абыякавым пазіранні саміх жа беларусаў, у горшым — прывядзе да міжусобіцы, рэлігійнага супрацьстаяння, крывавых катаклізмаў. Калі мы не адумаемся, не адродзімся цяпер, то можам страціць свой апошні гістарычны шанц, праўда не столькі выпакутаваны, колькі падараваны лёсам, падзеямі ў суседзяў. Дарэчы, відаць, у гэтым і трагедыйнасць нашага цяперашняга становішча, наш ці не унікальны парадокс...

Аднак я, здаецца, збіўся на эмацыянальныя заклінанні, што не выпадае рабіць, адкрываючы навуковую канферэнцыю. Таму скажу яшчэ толькі некалькі слоў пра мэты нашай сённяшняй сустрэчы. Крый Божа, каб тут прагучалі заклікі да беларусізацыі рускіх, палякаў ці іншых нацыянальных супольнасцяў. Усе яны маюць такое ж права на адраджэнне і развіццё сваёй нацыянальнай свядомасці, сваёй культуры. Больш таго, як пісаў у 1919 г. ваш зямляк Янка Купала, толькі "свабодны беларус у сваёй дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус, падняволены чужынцам". Таму давайце засяродзімся тут на пытанні, як зрабіць беларусамі саміх беларусаў. Нядаўна малады менчук Юзік Журкевіч спавядаўся ў "ЛіМе" (26 чэрвеня 1992 г.), што калі ён, іншыя беларусы спрабуюць дацягнуцца да сваёй існасці, сваіх каранёў, то ім "нешта замінае". То давайце сёння і заўтра, у нашых рэкамендацыях, акрэслім: што ж замінае? Што перашкаджае адраджэнню і развіццю нацыянальнай самасвядомасці на самых розных узроўнях, у самых розных сферах — дзяржаўнай і сямейнай, адукацыйнай і рэлігійнай, сацыяльнай і эканамічнай, у элітарнай і масавай культуры.

У прыведзеным пераліку сфераў усё важна, усё ўзаемазвязана. Аднак я ўсё ж рызыкнуў бы вылучыць тут дзяржаўны і выхаваўчы аспекты і, злоўжываючы вашым цярпеннем, выказаць некалькі думак, паставіць некалькі дыскусійных пытанняў.

Відаць, фарміраванне нацыянальнай свядомасці — найпершы абавязак нацыянальнай дзяржавы, калі ў ёй, вядома, існуе інстынкт самазахавання. Але выконваць гэтую функцыю яна зможа толькі тады, калі яе апарат будзе складацца з нацыянальна свядомых, адданых свайму народу кадраў. Між тым, як гэта падкрэслівалася на нядаўняй рэспубліканскай канферэнцыі ТБМ, "па Мінску сярод кіруючых кадраў амаль усюды пераважае руская нацыянальнасць". Такая ж сітуацыя і ў іншых гарадах. Якое ж тут выйсце? Толькі не ў прымусе, а ў паслядоўным маральным і матэрыяльным заахвочванні да вывучэння дзяржаўнай мовы, як гэта і прадугледжана законам. Вопыт 20-х гадоў (прыгадаем М.Шчакаціхіна, Е.Міровіча) паказаў, што гэта зусім рэальна. Калі ж хто не хоча, то тут трэба смела ставіць пытанне аб неадпаведнасці высокаму службоваму становішчу, займаючы якое, нельга не ведаць дзяржаўнай мовы.

З другога боку, часта мне здаецца, што на сілу законаў мы ўскладаем празмерна вялікія надзеі, бачым у ёй панацэю ад усіх нацыянальных бядот. Таму і прабуксоўваюць законы, што дзяржава слаба звязана з кожным яе грамадзянінам. "Урадавая беларусізацыя" павінна абавязкова дапаўняцца нацыянальнай ідэнтыфікацыяй кожнага індывіда, выхаваннем у яго — у сям'і, у школе — пачуццяў годнасці за сваю Айчыну, веры ў яе будучыню, павагі да свайго і праз гэта да іншых народаў, болю ад усяго дрэннага, што творыцца ў яго краіне. Дасягнуць гэтага — пры нашым упадку нацыянальнага духу — няпроста, але мажліва. Дык давайце ж разам падумаем, як гэта зрабіць — і праз сістэму нацыянальнай адукацыі, якая цяпер распрацоўваецца, і праз сродкі масавай інфармацыі, дзе "Белорусская нива", прызначаная для сялянства, усё яшчэ (о, парадокс!) выдаецца не на яго роднай мове і дзе ўсё яшчэ няма народнага выдання тыпу дарэвалюцыйнай "Нашай нівы" і праз хрысціянскія храмы, у якіх беларус усё яшчэ, на жаль, выбірае паміж рускай і польскай мовай, і праз эканоміку, бізнес, дзе павінны існаваць выразныя нацыянальныя прыярытэты.

А яшчэ асабліва важна ажыўляць, ствараць і ўмацоўваць свае нацыянальныя ідэалы, заснаваныя на гістарычных традыцыях і міфах, на такіх светлых постацях, як Скарына, Каліноўскі, Багдановіч, Купала. Вядома, некаторыя з ранейшых ідэалаў найперш нацыянальнай незалежнасці, такія прывабныя для моладзі ў часы таталітарнага праследавання ўсяго беларускага, цяпер, з абвяшчэннем суверэнітэту, нібыта вычарпалі сябе, патрабуюць замены новымі. Адной з такіх прываблівых мэтаў павінна стаць нейтральная, бяз'ядзерная дэмакратычная Беларусь, якая ўваходзіць у еўрапейскую супольнасць і адначасова ўспрымае ўсё лепшае ад усходніх і паўднёвых суседзяў. Беларусь, населеная працавітымі і гордымі людзьмі, у душах якіх жыве вера, надзея і любоў, жыве радасць і боль за сваіх суайчыннікаў і ўсіх людзей зямлі. Жывуць тыя самыя пачуцці, якія падштурхнулі менскага рабочага Андрэя Пaскевіча напісаць на сваёй дыхтоўнай куртцы "я — беларус".

*Па краінах Садружнасці*

### ДАПАМОЖА ТУТ СТАТУТ?

Скончана распрацоўка першапачатковага варыянта Статута СНД. Згодна з каментарам прэс-службы рабочай групы Садружнасці, дадзеным карэспандэнту "ЧЗ", у такім выглядзе праект Статута яшчэ нямала паблукае па краінах СНД. Калі ж урэшце дакумент "абрасце" прапановамі, то, відаць, і год скончыцца. Так што сёлета наўрад ці СНД акрэсліцца больш-менш ясна як пэўная супольнасць дзяржаў.

### ПРАКУРАТУРА ВЫШЭЙ ЗА ГОРЫ

Апошнім часам усё часцей мільгае ў прэсе назоў "Канфедэрацыя горскіх народаў Каўказа". Менавіта апошнюю пракуратура Расіі абвінавачвае ў закліках да міжнацыянальнага процістаяння, тэрарызму і нават захопу заложнікаў у Абхазіі.

### ІЗНОЎ — НА ЦАЛІНУ

Але не для абстрактных агульнасаюзных засекаў, а для сябе, сваіх суграмадзян, адправіліся ў Казахстан беларускія механізатары. Звышзадача "цаліншчыкаў" — здабыць для рэспублікі 2 мільёны тон пшаніцы.

### НА ЧУЖОЙ БЯДЗЕ

Аэрапорт Адлер ператварыўся ў прыфрантавую паласу. Білеты ў Маскву і іншыя гарады раскуплены да канца верасня. Свабоднымі засталіся толькі авіялайнеры камерцыйных рэйсаў. Іхні білет каштуе звыш 5 тысяч рублёў. Людзі здымаюць з сябе заручальныя пярсцёнкі, завушніцы, чаравікі і... прадаюць мясцовым спекулянтам. Абы вырвацца з гэтага пекла, спароджанага канфліктам паміж Грузіяй і Абхазіяй.

### ПАРАД ДЗЁН НЕЗАЛЕЖНАСЦІ...

Парад суверэнітэтаў перайшоў сёлета ў святочны парад Дзён незалежнасці. Так, 31 жніўня, адзначыў дзень прыняцця дэкларацыі аб незалежнасці Кыргызстан, 1 верасня — Узбекістан...

### ФІЛАРЭТ ДАРАВАЎ МАЗЕПУ

Напрыканцы Сусветнага форуму ўкраінцаў Філарэт, які ўзначаліў аўтакефальную Украінскую царкву, зняў анафему з гетмана Мазепы.

## Дайджэст

* * *

Ад 12 да 89 тысяч рублёў атрымае кожны жыхар, грамадзянін Рэспублікі Беларусь у выніку прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці. Колькі і калі — гэта вызначыць сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі, якая збярэцца восенню.

* * *

У друку змешчаны ліст, за подпісамі 21 народнага дэпутата, апазіцыі БНФ у парламенце Рэспублікі Беларусь з патрабаваннем аб неабходнасці хутчэйшага збору восеньскай сесіі — 29 верасня 1992 года "Ці не задоўжыліся канікулы, калегі-дэпутаты?" Мэтазгоднасць склікання чарговай сесіі вынікае з палітычнай і эканамічнай сітуацыі тэрміновым прыняццем адпаведных заканадаўчых рашэнняў.

* * *

Дадатковыя 16 мільярдаў рублёў, акрамя выдзеленых 60 мільярдаў на крэдытаванне, атрымае аграпрамысловы комплекс рэспублікі. Грошы будуць накіраваны на правядзенне ўборачных работ, якія значна ўскладніліся ў сувязі з вялікай засухай.

* * *

1300 ваеннаслужачых з Сярэднеазіяцкай пагранічнай акругі вернуцца на Радзіму. Такое рашэнне аб звароце сваіх салдат і сяржантаў прыняло Упраўленне пагранічных войск Савета Міністраў Беларусі. Гэта тлумачыцца тым, што служба грамадзян Беларусі на пагранічных рубяжах суседніх суверэнных дзяржаў з'яўляецца прававым нонсенсам, тым больш, калі звязана з пагрозай іх жыцця.

* * *

15 верасня, магчыма, адбудзецца чарговае павышэнне цэн на білеты і паслугі на Беларускай чыгунцы. Паводле папярэдніх звестак кошт білетаў узрасце ў сярэднім у два разы. Афіцыйнае паведамленне аб чарговым падаражанні паслуг на Беларускай чыгунцы адбудзецца пасля дамовы з калегамі з іншых краін СНД.



# ЗВАНОК НА ЎРОК

## ВУЧЫЦЦА ЦІ ЖАНІЦЦА?

Закон аб адукацыі адмяніў абавязковую сярэднюю адукацыю, пакінуўшы толькі базавую. Для многіх вучняў гэта стала нечаканым.

Начальнік аддзела агульнай і сярэдняй адукацыі і дашкольнага выхавання Мінскага гарвыканкама Ала Васільеўна Фралова расказвае:

— З гэтага года набор у дзесятыя класы ажыццяўляецца на конкурснай аснове. Фактычна конкурсны прыём праводзіўся і раней, напрыклад, у школы з вывучэннем замежнай мовы, музычныя ці мастацкія. Сярэднім навучальным установам прадастаўлена права выбару формы конкурсу. Гэта можа быць і конкурс пасведчанняў, і гутарка або праверачная работа па профілю школы. На льготных умовах прымаюцца дзеці-сіроты, інваліды, пераможцы алімпіяд.

— Што будуць рабіць "троечнікі"?

— Многія ўладкаваліся ў ПТВ. Калі раней было складана ўкамплектаваць, напрыклад, будаўнічыя вучылішчы, то сёлета ні адна прафесійна-тэхнічная ўстанова горада Мінска не мае свабодных месцаў. Больш таго, ПТВ набралі на 400 чалавек больш, чым звычайна.

Частка моладзі будзе займацца ў так званых рэальных класах. Вучні атрымаюць неабходны мінімум ведаў і адначасова прафесію. Якую? Гэта залежыць ад магчымасцей школы. Два дні ў тыдзень падлеткі будуць займацца ці на базе ПТВ, ці на базе вучэбна-прафесійных камбінатаў.



## ШТО ДУМАЕЦЕ ВЫ З НАГОДЫ 1 ВЕРАСНЯ?

З такім пытаннем звярнуўся наш карэспандэнт да жыхароў сталіцы.

Ветэран вайны з сівізной і медалямі шматзначна:

— 1 верасня — гэта... 1 верасня.

Пагадзіўшыся з такім меркаваннем, журналіст задае тое ж пытанне жанчыне, работніцы камвольнага камбіната:

— У вас дзве дзяўчынкі. Як Вы выпраўляеце іх у школу?

— Клопату хапае. Яны ж растуць хутка, форму трэба купляць. Ды і сшыткамі, алоўкамі забяспечваць. А яшчэ часта самой задачы рашаць прыходзіцца і сачыненні пісаць.

Так, бацькам нялёгка. А што ж самі вучні?

Дзіяна (перайшла ў другі клас школы № 18 г. Мінска):

— Я хачу ў школу. Мне падабаецца вучыцца, а вучуся на "4" і "5".

Віталік і Ваня займаюцца ў 126-й мінскай школе. Ім гадоў па пятнаццаць.

— Не-е. Аніякага жадання няма. У школу можна хадзіць, бо там весела. Але вучыцца... Не-е.

Першакласнік Жэнька пойдзе ў школу, каб атрымліваць добрыя адзнакі.

Дзе яшчэ можна сустрэць напярэдадні 1 верасня столькі вучняў, як не ў магазіне "Школьнік".

Дзве сяброўкі-выпускніцы Аня і Наташа:

— Не трэба нумар школы ў газеце пісаць. Мы не вельмі добра, на думку настаўнікаў, сябе паводзім. Вучыцца не хочацца, але лепш вучыцца ў школе, чым потым шукаць сабе месца.

У хвост доўгай чаргі ў касу становіцца высокі хударлявы юнак.

— Вы студэнт?

— Так,— даносіцца зверху.

— На заняткі хадзіць хочацца?

— Не.

Калі зрабіць шкалу ацэнкі жадання вучыцца ў залежнасці ад узросту апытаных, то можна адзначыць, што такое жаданне адваротна прапарцыянальнае ўзросту.

Сталасць не радасць?

## СПАДАРЫНЯ ЗА 2,5 ТЫСЯЧЫ

Каб стаць "спадарыняй сакратаром-рэферэнтам" (менавіта так запісана ў пасведчанні), трэба заплаціць 2,5 тысячы.

А потым хадзіць штодзень на працягу трох месяцаў на заняткі курсаў сакратароў-рэферэнтаў гасразліковага навукова-творчага аб'яднання "Студэнцкая філармонія". Вы будзеце вывучаць машынапіс, справаводства, польскую мову, асновы інфарматыкі. Але не спадзявайцеся, што пасля заканчэння курсаў вы станеце гатовым спецыялістам. Навучанне тут вядзецца па сістэме: "Мы даём вам вяршкі, а паглыбляць свае веды вы павінны самі". У прыватнасці, польскую мову вы будзеце вывучаць амаль што самастойна. Безумоўна, 2,5 тысячы сёння не грошы, але ж каму хочацца іх аддаваць, каб атрымаць права вывучэння мовы самому?

На курсах вас прывучаць да ўсведамлення думкі, што "шэф не спазняецца, а затрымліваецца", што вельмі карысна для будучай працы. Была нормай "затрымка" выкладчыкаў на 15—30 хвілін. Апошні месяц на заняткі раней чым а палове на дзевятнаццатую гадзіну прыходзіць не рэкамендуецца.

Калі будзеце ісці на адборачны тур, падрыхтуйцеся, бо з вялікай колькасці жадаючых выберуць толькі дваццаць чатыры дзяўчыны.

Дырэкцыя курсаў працаўладкавання не гарантуе, аб чым вам адразу паведамляць, але будзе імкнуцца гэта зрабіць. У першую чаргу ўладкоўваюцца больш здольныя незамужнія дзяўчаты.

І яшчэ парада, калі вы ўсё ж вырашылі працаваць сакратаром-рэферэнтам у сумесных эсэндэўска-польскіх прадпрыемствах, вучыце мову. Хаця, можа вам пашанцуе, і сістэма навучання на курсах зменіцца.

А аднойчы, калі я абуралася коштам непрафесійнага выкладання, мой знаёмы сказаў: "Дурніца, гэта ж плата не за веды, а за "корку", яшчэ і малая".

Магчыма, ён меў рацыю.

## ХОЧАШ СТАЦЬ ЮРЫСТАМ? ПЛАЦІ ГРОШЫ

У гэтым годзе на стацыянар Беларускага інстытута правазнаўства залічана 160 студэнтаў. Яшчэ 50 набіраецца на новую спецыяльнасць – фінансавае права.

Гэта платная навучальная ўстанова, якая пачала працаваць год назад. Адзін з заснавальнікаў інстытута – Саюз юрыстаў Рэспублікі Беларусь. Саюз мае права стварэння навучальных устаноў. На падставе вопыту юрыдычнага факультэта Гродзенскага універсітэта была вынесена такая прапанова. Савет Міністраў Рэспублікі яе падтрымаў.

Спачатку задумвалася Мінская вышэйшая юрыдычная школа для перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі кадраў. Але сучаснае жыццё прад'яўляе больш жорсткія патрабаванні. Сённяшні юрыст павінен разбірацца ў пытаннях эканомікі, фінансаў, менеджмента. У нашай краіне ўзрасла колькасць спецыялістаў, але адсутнічае якасны рост. Гэтыя ўмовы і запатрабавалі пераўтварэння Мінскай вышэйшай школы ў БІП.

У адрозненні ад МВЮШ, дзе было толькі завочнае навучанне, у інстытуце вядзецца і стацыянарнае, і завочнае.

Паступаць можа кожны жадаючы, ніякіх абмежаванняў няма. Студэнты дзённага аддзялення будуць займацца чатыры гады, завочнага – пяць гадоў на базе сярэдняй адукацыі і тры з паловай – на базе вышэйшай.

Праграма інстытута прадугледжвае вывучэнне прававога рэгулявання Беларусі з замежнымі краінамі.

Вельмі многа ўвагі ўдзяляецца замежным мовам. На думку рэктара інстытута правазнаўства Сцяпана Фёдаравіча Сокала, дрэннае веданне моў – гэта прафесійная абмежаванасць.

Студэнты будуць вывучаць нямецкую і англійскую мовы на працягу трох год па дзесяць гадзін у тыдзень.

Кадры рыхтуюцца па трох спецыяльнасцях: прававое забеспячэнне знешнеэканамічнай дзейнасці, гаспадарчае права і фінансавае права.

У стадыі прыняцця палажэнне аб увядзенні ступеней бакалаўра і магістра ў залежнасці ад тэрміну навучання. Гэта робіцца не наўздагон за модай, а дзеля таго, каб нашы добра падрыхтаваныя спецыялісты маглі мець "канверсуемыя" дыпломы, каб, паехаўшы за мяжу, яны змаглі працаваць юрыстамі.

Колькі ж трэба аддаць за навучанне ў Беларускім інстытуце правазнаўства? Кошт залежыць ад шэрагу акалічнасцей. Улічваюцца абраная спецыялізацыя (навучанне па курсу "забеспячэнне знешнеэканамічнай дзейнасці" найбольш дорага каштуе), а таксама тое, ці паступае чалавек упершыню або атрымлівае другую адукацыю, форма навучання – дзённая ці завочная. Ну а калі ёсць спонсар, то ён плаціць не двойчы, але больш, чым калі б студэнт гэта рабіў сам. У лічбах гэта складае ад васьмі да трыццаці тысяч рублёў.

Паласу падрыхтавала Жанна ПАЦЕЕНАК.

Падпіска—93 Наш індэкс 63129

# ЗАГУБІЛА СЛАВА



Камандзіра 208-й мотамеханізаванай дывізіі 13-га мехкорпуса палкоўніка Уладзіміра Іванавіча Нічыпаровіча вайна застала паблізу Беластока. Дывізія ўступіла ў яе не паспеўшы сфарміравацца, без дастатковай колькасці тэхнікі і ўзбраення. Нягледзячы на вялікую перавагу ворага ў сіле і тэхніцы, яна да 25 чэрвеня ўтрымлівала абарону. Камандзір два разы трапляў у акружэнне і выходзіў з яго. Ужо каля Стоўбцаў у падраздзяленні засталося не больш як 60 чалавек. З імі пад вёскай Фаніпаль 16 ліпеня Нічыпаровіч ўступіў у бой з фашысцкай ротай, якую амаль знішчыў, сам страціў 11 чалавек.

У Мінск ён прыйшоў у канцы ліпеня, маючы фіктыўныя дакументы. Уладкавацца куды-небудзь па іх было немагчыма. Ды і з мэтай перасцярогі ён гэтага не рабіў.

У першыя дні знаходжання ў Мінску Нічыпаровіч адчуваў сябе вельмі дрэнна. У яго былі пацёртыя ногі, па горадзе хадзіць ён не мог. Давялося каля тыдня праляжаць у пакоі. Калі адчуў сябе лепш, устанавіў сувязь з камандзірам батарэй 208 мотадывізіі Смірновым, з ваеннаслужачымі Джоевым, Дружыніным, Бывалым, Бурцавым, Гарнастаевым, Васільевым, Сакаловым. З іх дапамогай на станцыі Мінск было падрыхтавана крушэнне цягніка на ўчастку Калодзішчы—Мінск. А крыху пазней на той жа станцыі быў падпалены склад з гаручым. У канцы жніўня — пачатку верасня 1941 года па ўказанню Нічыпаровіча па вуліцы Серабранка была спалена майстэрня, дзе фашысты рамантавалі аўтамашыны. Кіраваў аперацыяй маёр Гарнастаеў. Групай знішчана таксама некалькі афіцэраў і салдат.

Галоўная праблема, якой часцей за ўсё даводзілася займацца Нічыпаровічу і яго баявым таварышам у акупіраванай фашыстамі сталіцы, было фарміраванне партызанскага атрада і адпраўка яго з горада ў лес. Кожны падбіраў аднадумцаў, у асноўным былых ваеннаслужачых. Паводле падлікаў Нічыпаровіча, у партызаны намервалася пайсці чалавек 40-50. Кожны павінен быў узяць для сябе на два дні прадукты харчавання, цёплую бялізну, зброю. Многія свае аўтаматы, вінтоўкі, патроны да іх схавалі ў лясах недалёка ад Мінска Кожнаму ставілася задача адшукаць усё гэта.

Створаны яшчэ ў Мінску атрад меў такую структуру: у яго ўваходзіла пяць груп. Іх узначальвалі Бывалы, Бурцаў, Гарнастаеў, Іваноў і Сакалоў. У кожнай налічвалася каля дзесяці чалавек. Начальнікам штаба прызначылі Джоева.

Атрад паступова павялічваў свае рады, з баямі здабываў сабе боепрыпасы, зброю, ежу. У сярэдзіне 1942 года ён меў ўстойлівую сувязь з камандаваннем Заходняга фронту, які ў той час /да 26 жніўня 1942 года / узначальваў Г.К. Жукаў, аднакашнік У.І. Нічыпаровіча па ваеннай акадэміі. 2 ліпеня 1942 года камандзір дакладваў Ваеннаму Савету Заходняга фронту:

"Атрад мае колькасць 700 чалавек, выключна кадравыя байцы і камандзіры Чырвонай Арміі. На ўзбраенні, акрамя вінтовак і кулямётаў, маем 43 ручныя кулямёты, 9 станкавых кулямётаў, 2 батальённыя і 12 ротных мінамётаў, 4 гарматы, снарадаў 45-мм —1500 шт., снарадаў 76 мм —344 шт., вінтовачных патронаў —150 000 шт.

Атрад арганізаваны па прынцыпу Чырвонай Арміі: аддзяленне, узвод, рота. Ён носіць нумар 208, па прыкладу нашай дывізіі. Па аднадушнаму жаданню партызан яму прысвоена імя Сталіна. У сакавіку разбіў пад Бабруйскам склад з боепрыпасамі і вывез усімі атрадамі каля мільёна патронаў. Гэтым і жывём. Вялікі пад"ём сярод партызан, бо, знаходзячыся ў варожым тыле, мы цяпер не адны. Мы адчуваем за сваёй спінай моцную матэрыяльную і маральную падтрымку Ваеннага Савета Заходняга фронту".

Атрымаўшы з варожага тылу такую інфармацыю пра паспяховыя баявыя дзеянні беларускіх партызан і важныя разведданыя, Заходні фронт аказаў 208-му атраду вялікую дапамогу зброяй, боепрыпасамі, узрыўчатымі рэчывамі. Гэта дало магчымасць істотна актывізаваць дыверсійна-баявую дзейнасць народных мсціўцаў у Пухавіцкім і Узденскім раёнах Мінскай вобласці і суседніх раёнах Магілёўшчыны.

Паводле паказанняў былых партызан, 208-ы атрад баявымі поспехамі у многім быў абавязаны свайму камандзіру — чалавеку валявому, энергічнаму і рашучаму, у ваеннай справе добра падрыхтаванаму. Яны горача любілі свайго камандзіра. Але ў 1943 годзе ім усё ж давялося расстацца. Вясной камандаванне вырашыла У.І. Нічыпаровіча адклікаць з тылу, каб выкарыстаць яго баявы вопыт і ваенныя веды на фронце. У красавіку ён прыбыў у Маскву ў распараджэнне аддзела кадраў Генеральнага штаба. Неўзабаве яму было прысвоена званне генерал-маёра і прапанавана пасада намесніка камандзіра кавалерыйскага корпуса, на якую ён даў згоду. Але прыбыць на новае месца службы Нічыпаровіч не паспеў. 30 мая 1943 года былы камандзір партызанскага атрада быў арыштаваны.

Як пазней стала вядома, прычынай арышту паслужыў паклёп на мужнага і сумленнага камандзіра, яго баявая слава, павышэнне ў званні і новае высокае назначэнне, якія не давалі спакою няўдачлівым зайздроснікам. І яны пайшлі на подласць. Некаторыя з былых калег У.І. Нічыпаровіча па партызанскай барацьбе, якія па розных прычынах прыбывалі ў Маскву, пачалі нагаворваць на яго. Маўляў, быццам бы ён заманьваў да сябе ў атрад савецкія разведгрупы, атрымліваў каштоўныя звесткі, перадаваў іх ад сябе за лінію фронту, пасля чаго разведчыкаў расстрэльваў, а сам атрымліваў узнагароды, званні і пасады. Усе паказанні зводзіліся да аднаго — Нічыпаровіч мае дачыненне да правалаў Мінскага падполля. На Лубянцы ад яго патрабавалі паказанняў у здрадзе Радзіме. Для гэтага, зразумела, неабходны былі адпаведныя паказанні. Іх спрабавалі атрымаць шляхам жорсткіх катаванняў, схілення да самаабгавору. Так працягвалася амаль тры месяцы, але жаданага выніку следчыя не дасягнулі. Генерал У.І. Нічыпаровіч ні ў чым сябе вінаватым не прызнаў, іншых таксама не абгаварыў. Тады ў Маскву з акупіраванай тэрыторыі Беларусі пад рознымі прычынамі пачалі дастаўляць тых, хто добра ведаў Нічыпаровіча або з ім служыў. Следству наўмысна надавалі бачнасць законнасці: сталі весці пратаколы допытаў падазронага і сведак. Яны працягваліся па 4-5 гадзін без перапынкаў, у тым ліку і ў начны час. Не абгаварыўшы сябе і сваіх таварышаў, У.І. Нічыпаровіч на Лубянцы аб'явіў галадоўку і 31 студзеня 1945 года памёр.

Як вёў сябе Нічыпаровіч і што гаварылі пра яго "сведкі", відаць з архіўных дакументаў, якія толькі нядаўна ўдалося адшукаць у спецархівах. Характэрна, што нават неаднаразовыя спробы Г.К. Жукава дапамагчы яму, захаваць яго добрае імя і вярнуць у строй вопытнага камандзіра не мелі поспеху.

Першы допыт працягваўся пяць з паловай гадзін. Нічыпаровічу задавалі самыя разнастайныя пытанні, асобныя — па некалькі разоў, відаць, спрабуючы знайсці недакладнасці або няўвязкі. Яго шмат распытвалі пра Кабушкіна, якога камандзір ведаў па дзейнасці ў партызанскім атрадзе і арганізацыі Мінскага падполля. Пра гэтага мужнага чалавека цяпер можна пачуць розныя водгукі. Мы ж спашлёмся на паказанні Нічыпаровіча, якія даваў ён па свежых падзеях. Гэтыя звесткі да нядаўняга часу захоўваліся ў архівах і былі недаступны нашым даследчыкам. Таму ім, думаецца, будзе цікава яшчэ раз супаставіць паказанні Нічыпаровіча з сапраўднасцю.

"– Хто быў памочнікам Рабышава па разведцы?

– Памочнікам Рабышава па разведцы быў Кабушкін Іван, імя па бацьку не ведаю. У атрадзе Кабушкіна ўсе называлі Жанам.

– Чаму?

– Не ведаю

– Хто такі Кабушкін і адкуль ён з"явіўся ў атрадзе?

Кабушкін з"явіўся ў атрадзе ў лютым 1942 года, прыбыў з групай разведчыкаў з Мінска.

– Пры якіх акалічнасцях Кабушкін з"явіўся ў атрадзе?

– У лютым група разведчыкаў 208-га партызанскага атрада вярталася з задання. Кіламетрах у 15 ад



размяшчэння атрада яна сустрэла на падводах атрад Самсонава, у якім налічвалася чалавек 60. Уся група і прыбыла ў 208-ы партызанскі атрад, якім я кіраваў, і ўлілася ў яго. Разам з гэтай групай у атрад прыйшоў і Кабушкін.

– Кабушкін быў членам партызанскай групы Самсонава?

– Не, Кабушкін дагнаў атрад Самсонава на падводзе ў той момант, калі ён рухаўся ў напрамку 208-га партызанскага атрада і прымкнуў да яго".

У час гутаркі з Нічыпаровічам Кабушкін расказаў, што да вайны служыў ваентэхнікам разведдывізіёна. Іх дывізія была разбіта, і ён аказаўся ў акружэнні. Выходзячы з яго, Кабушкін захварэў і вымушаны быў спыніцца ў сваіх знаёмых у Мінску, ужо акупіраваным немцамі. Дзе Кабушкін пражываў да вайны — Нічыпаровіч не ведаў. Імкнучыся трапіць у адзін з партызанскіх атрадаў, ён і прымкнуў да групы Самсонава.

—Як жа Кабушкіна прынялі ў атрад, не ведаючы пра яго нічога?

Нічыпаровіч растлумачыў:" Палітруком другой роты ў атрадзе з"яўляўся Іваноў Іван Рыгоравіч, які пазней стаў камісарам атрада. Да вайны і ў першы яе перыяд Іваноў быў камісарам палка 86-й дывізіі. Калі Кабушкін заявіў, што там служыў, то дакладнасць звестак аб яго службе была праверана шляхам пастаноўкі перад Кабушкіным шматлікіх пытанняў. Адказваючы на іх, Кабушкін назваў прозвішчы камандзіраў дывізіёнаў, дывізіі і некаторыя іншыя. Гэтыя акалічнасці далі магчымасць прыняць рашэнне аб залічэнні яго ў атрад. Больш пра яго мне нічога іншага вядома не было".

Кабушкін быў залічаны радавым байцом у 1-ю роту, а яе камандзіру маёру Гарнастаеву даручылі праверыць навічка ў баявой абстаноўцы. Праявіў ён сябе добра і быў залічаны ў разведузвод разведчыкам, а ў канцы лютага ці пачатку сакавіка 1942 года прызначаны памочнікам начальніка разведкі да Рабышава.

Яшчэ, калі Кабушкін быў радавым байцом-партызанам, у атрадзе атрымалі звесткі, што на адной з кватэр у Мінску пражывае радыст, выкінуты з самалёта разам з радыёстанцыяй. Чалавек, які паведаміў пра гэта, быў нейкім чынам звязаны з Мінскім падпольным камітэтам. У Мінск па радыста і рацыю паслалі Кабушкіна і яшчэ трох партызан. Заданне было выканана.

Пасля вяртання з Мінска Кабушкін паведаміў аб магчымасці аддрукаваць лістоўкі. У сакавіку даручылі яму гэта заданне, а заадно здабыць і махорку. Пастаўленая задача таксама была паспяхова выканана.

Так, Кабушкін устанавіў сувязь з прадстаўнікамі Мінскага падпольнага камітэта, але з кім персанальна — Нічыпаровіч не ведаў.

" У час адной з паездак у Мінск ён даведаўся ад ўпаўнаважанага падпольнага камітэта, што ў раён Вялікай Вёскі /ці Старога Сяла/, якое кіламетрах у трыццаці ад Мінска, прыбываюць савецкія самалёты. Для ўстанаўлення сувязі з Масквой я накіраваў у канцы чэрвеня 1942 года Кабушкіна ў горад Мінск, паставіў задачу звязацца з упаўнаважаным, устанавіць месца пасадкі самалётаў. Ён паехаў у Мінск і адтуль больш не вярнуўся. Што з ім здарылася – я не ведаю.

Пра знікненне Кабушкіна ў атрадзе хадзілі розная размовы. Хто гаварыў, што ён здраднік, гаварылі таксама, што яго забілі".

Што здарылася з Жанам на самай справе, на допытах расказала Г.Ц. Каплан, якая пазнаёмілася з ім на кватэры Кудзінава ў 1941 годзе.

"У канцы 1943 года Жана хтосьці выдаў і ён немцамі быў арыштаваны. На допытах яго замучылі да смерці, аб чым я даведалася ад наглядчыка турмы мясцовага немца па прозвішчу Артур, з якім была яшчэ знаёма да вайны па сумеснай рабоце на кандытарскай фабрыцы. Артур з Мінска выехаў разам з немцамі."

Ганна Ціханаўна падтрымлівала сувязь з атрадам Нічыпаровіча, выконвала заданні падпольшчыкаў. У лютым 1944 года была арыштавана гестапа, утрымлівалася пад вартай. Яе дапытвалі аб сувязях з партызанамі, патрабавалі назваць прозвішчы. Пры вобыску на кватэры былі знойдзены два рэвальверы, падрыхтаваныя дачкою для партызан. За гэта яны паплаціліся вельмі дорага. Дачка Ганны Ціханаўны Аляксандра была зажыва спалена ў Трасцянцы, а сама яна толькі цудам засталася ў жывых.

Г.Ц. Каплан расказала і пра адну з аперацый, праведзенай не без дапамогі партызан.

"У 1941 годзе мой былы муж – Прыгодскі Васіль Уладзіміравіч устанавіў сувязь з органамі гестапа, хацеў, каб і я прыняла ўдзел у гэтай справе. Прыгодскі ведаў пра Нічыпаровіча, Кудзінава, Іванова і іншых, а таксама пра іх планы, намерваўся іх выдаць, дзеля чаго ўвайшоў у злачынную здзелку з тайным агентам гестапа.

Нічыпаровіч і Кудзінаў і раней падазравалі Прыгодскага ў сувязі з немцамі, прасілі мяне паўплываць на яго, аднак ўсе мае намаганні ні да чаго не прыводзілі.

Баючыся правалу, я расказала пра ўсё гэта Нічыпаровічу і Кудзінаву. Яны вырашылі забіць Прыгодскага. Калі выехалі ў партызанскі атрад, то выслалі адтуль з заданнем партызан Жана, Лёньку і Федзьку (прозвішчы іх я не памятаю /. Жан, Лёнька і Федзька абмеркавалі са мной план забойства Прыгодскага. Выманіўшы яго з кватэры, нанеслі некалькі ран сякерай па галаве. Думаючы, што ён забіты, пайшлі назад у партызанскі атрад.

Прыгодскі атрымаў цяжкія раненні і быў змешчаны на лячэнне ў першую Савецкую бальніцу. Ён зразумеў, што гэта справа маіх рук і заявіў: калі выйду з бальніцы, то ўсіх, у тым ліку і мяне, перавешае разам з партызанамі, якія засталіся ў горадзе. Пра гэтую размову я паведаміла Жану і сувязной Галубоўскай, папрасіла перадаць Нічыпаровічу.

Жан мне ўручыў каля тысячы рублёў савецкімі грашовымі знакамі і залаты наручны гадзіннік, прасіў адправіцца да ўрача, які лечыць Прыгодскага, уручыць каштоўнасці і ўгаварыць яго пакончыць з Прыгодскім.

Я адправілася ў бальніцу і, сустрэўшы ўрача Бондарава, што лячыў Прыгодскага, выказала пажаданне, каб здраднік не падняўся з бальнічнага ложка. Бондараў пацікавіўся:"Адкуль ў мяне такое жаданне?". Я сказала, калі Прыгодскі выйдзе з бальніцы, то шмат людзей з-за яго загіне.

Я паклала на яго стол грошы і залаты гадзіннік. Бондараў сказаў, каб я ішла дамоў.На наступную раніцу Прыгодскі памёр.

Пра ўдачны зыход з Прыгодскім я праінфармавала Жана і Галубоўскую. Жан мне расказаў, што ад Нічыпаровіча ім моцна папала за няўдачны замах на Прыгодскага".

• /З паказанняў Г.Ц. Каплан/.

Гэты факт поўнасцю пацвердзіў лечачы ўрач Бондараў. Як аказалася, да Прыгодскага двойчы ў бальніцу прыходзілі з гестапа, але ў палату не трапілі. Нязваных гасцей урачы пераканалі ў немагчымасці сустрэчы з хворым.

— Ведаючы, кім на самай справе з"яўляецца Прыгодскі,— успамінаў Бондараў,— я прыняў меры па недапушчэнню да яго гестапаўца.

Пра ўсё гэта, як аказалася, ведалі прафесар Я.В. Клумаў, медсястра В.Ф. Рубец, якая аднойчы ў прысутнасці Каплан уручыла яму зводкі Саўінформбюро.

Яшчэ пра адзін, на наш погляд, вельмі цікавы эпізод расказала тады Ганна Ціханаўна. На пытанне:"Ці вядомы вам злачынцы, якія знаходзіліся сярод групы камандзіраў?" —яна адказала, што можа назваць толькі Полю з камітэта на Падлеснай вуліцы. Яна сустракалася з адным з нямецкіх афіцэраў і выдала яму каштоўныя звесткі. У пачатку 1943 года ўвесь састаў камітэта быў арыштаваны. Жану ўдалося ўцячы. Пазней пра гэта ён расказаў Каплан. Паводле яго слоў, за такое злачынства Полю давялося выманіць за горад і там з ёю пакончыць. Зрабіў гэта Жан.

Усяго гэтага ўжо тады, думаецца, было дастаткова, каб ацаніць уклад Нічыпаровіча ў барацьбу з ворагам. Але толькі не тым, хто ў яго асобе хацеў бачыць здрадніка Радзімы, хто быў зацікаўлены — ачарніць яго добрае імя. Спатрэбілася яшчэ восем пасляваенных гадоў, каб справу па абвінавачванню Уладзіміра Іванавіча Нічыпаровіча спыніць за адсутнасцю саставу злачынства і спісаць у архіў, дзе і знаходзілася яна да нядаўняга часу.

**Я.ПАЎЛАЎ,**
**доктар гістарычных навук;**
**А.ЦЫБУЛЬКА,**
**журналіст.**

Падпіска—93. Наш індэкс 63129

## Замежжа

### Туды нельга, сюды нельга

Пентагон пачаў ажыццяўленне буйнамаштабнай аперацыі "Паўднёвая вахта" ў зоне Персідскага заліва. Гэта значыць, што пастаўлены раней прэзідэнтам ЗША Дж.Бушам ультыматум у адносінах да Ірака выкананы: уведзена "забаронная паветраная зона", у межы якой не дазваляецца ўрывацца ніводнаму іракскаму самалёту.

### І там пажары

На працягу некалькіх дзён сталіца Славакіі Брацідлава знаходзілася ў коле пажараў. Агонь ахапіў каля 140 гектараў лясных пасадак у чатырох раёнах. Цяпер пажары ўдалося патушыць. Версіі аб іх прычынах выказваюцца розныя, не выключаюцца і наўмысныя падпалы.

### Зусім сакрэтна

Былы савецкі шпіён Дытар Фелікс Герхарт, які ў 1983 годзе быў прыгавораны ў ПАР да пажыццёвага зняволення, вызвалены з турмы па асабістаму распараджэнню прэзідэнта краіны Фрэдэрыка дэ Клерка. "У час сустрэчы ў Расіі прэзідэнт Барыс Ельцын звярнуўся да мяне з просьбай перагледзець прысуд, – адзначаецца ў заяве Ф.дэ Клерка.– Між прадстаўнікамі дзвюх краін была праведзена серыя перамоў, якія прывялі нас да ўзаемаразумення. З гэтай нагоды, а таксама ў сувязі з зусім новай сітуацыяй у Расіі, якая абумовіла паляпшэнне адносін паміж нашымі краінамі, я вырашыў згадзіцца з просьбай прэзідэнта Ельцына". У дакуменце паведамляецца, што 56-гадовы Д.Герхарт выйшаў на волю. Яго памілавалі як палітычнага зняволенага, што працаваў на СССР у інтарэсах паслаблення рэжыму апартэіду.

### Доказы супраць прэзідэнта

Генеральны пракурор Бразіліі Арыстыдзіс Жункейра ў перыяд з 15 па 20 верасня можа ўзбудзіць крымінальную справу супраць прэзідэнта краіны Фернанда Калора па абвінавачванню ў "пасіўнай карупцыі". Пра гэта паведаміла газета "Жорнал ду Бразіл" са спасылкай на супрацоўнікаў пракуратуры. Падставай для адкрыцця іску могуць паслужыць вынікі расследавання камісіяй кангрэса федэральнай паліцыі спраў па хабарніцтву.

### Адстаўкі

Згадзіўшыся, што атрыманне ім грошай ад фірмы "Сагава Кюбін", супраць якой пачата крымінальная справа, на самай справе мела месца, Сін Канэмару, які да гэтага часу прэтэндаваў на ролю самага ўплывовага палітыка Японіі, заявіў, што пакідае пост віцэ-старшыні правячай партыі. Гэта падзея, без перабольшання, зрабіла ў палітычных колах уражанне землятрусу сярэдняй сілы.

*З 16 па 25 жніўня недалёка ад Мінска, у Доме творчасці пісьменнікаў "Іслач" праходзіла міжнародная канферэнцыя "Our Environment — Our Responsibility" ("Наша навакольнае асяроддзе — наша адказнасць"). Арганізатары — міжнародны сакратарыят UNOY і аргкамітэт з Мінскага інстытута замежных моваў.*

# НЕ ЎСЁ ЗОЛАТА, ШТО БЛІШЧЫЦЬ,

## або Звычайная тусоўка з незвычайнымі мэтамі

Такім чынам, "Наша навакольнае асяроддзе — наша адказнасць". Мяркуючы па назве, "гэта нешта экалагічнае" — так і адказалі мне арганізатары на пытанне, што ўсё ж мае адбыцца. Я ўвогуле "люблю" арганізацыйныя камітэты, а асабліва тыя, якія самі не ведаюць, дзеля чаго існуюць і што збіраюцца арганізоўваць. Але гэта так, прэлюдыя з выхадам на камедыю. Далей — болей.

Уявім сабе, што недзе ў горадзе N групай людзей, што выпадкова сабраліся разам, ствараецца арганізацыя "Вярхоўны Савет моладзі". Скажаце, абсурдная ідэя. А "Арганізацыя Аб'яднаных Нацый моладзі" (менавіта так расшыфроўваецца скарачэнне UNOY — "United Nations of Youth") лепей? Дарэчы, назва салідная. Як ліхтар матылькоў, вабяць гучныя назвы маладых СНДэшнікаў. Для іх поўнай нечаканасцю з'явілася тое, што грамадскіх аб'яднанняў моладзі, якія так ці інакш выкарыстоўваюць у сваіх назвах скарачэнне "UN" (ААН), толькі ў кнізе Біла Энджэла, супрацоўніка офіса ААН у Вене, узгадвалася каля трыццаці. А што ж такое наш UNOY? Гэта *"міжнародная арганізацыя універсальнага характару, сфарміраваная моладдзю, працуючай разам з людзьмі і арганізацыямі, што прыязна ставяцца да яе"* (тут і далей курсівам выдзеленыя цытаты з арыгінальных дакументаў UNOY). А мэта правядзення канферэнцыі *"працаваць над стратэгіяй Альянса UNOY для стварэння Аб'яднаных Нацый моладзі да 1995 года як інструмента партнёрства ў ААН"*. Так што "нешта пра экалогію" пры бліжэйшым разглядзе апынулася "нечым пра грамадска-палітычную сітуацыю ў маладзёжным асяроддзі". А міжнародная арганізацыя UNOY, як бачна з прыведзеных вышэй цытат — гэта толькі міжнародны сакратарыят, які толькі ў 1995 годзе ўтворыць (а можа, і не ўтворыць) гэты самы Альянс UNOY. Праўда, тое, што арганізацыі няма, а ёсць толькі "рух за стварэнне", высветлілася ўжо пад час канферэнцыі, калі мне, нарэшце, удалося займець пэўныя дакументы на англійскай мове. Па віне аргкамітэта дакументаў на рускай мове спачатку ўвогуле не было, а патрэбныя ў рабоце паперы перакладаліся "ў працэсе". А перакладчыкаў, патрэбных удзельнікам, якія не валодаюць англійскай, не хапала нават пад час працы ў рабочых групах. Плюс да гэтага вечныя арганізацыйныя накладкі і такая дробязь, што за ўсе дзесяць дзён кіраўніку аргкамітэта так і не ўдалося сабраць нармальную планёрку. Можна было б сказаць, што гэта іх справы. Але вось адсутнасць спіса ўдзельнікаў і краін-удзельніц у першыя дні (ён быў складзены амаль "пад раз'езд" заднім чыслом) — гэта ўжо ўзровень. Урэшце, разабраліся: каля 30 удзельнікаў з-за межаў СНД плюс маладыя людзі з Расіі, Беларусі, Латвіі, Грузіі, Казахстана, Украіны. На тое, каб усвядоміць, чаму ж так часта гучала запаветная лічба 40 (краін-удзельніц), маіх здольнасцяў яўна не хапіла. Можа, я дрэнны матэматык, але што гэта — па некалькі краін на ўдзельніка? Ну ды гэта дробязі.

Але з-за такіх вось, мякка кажучы, недакладнасцяў, прыкладна палова ўдзельнікаў (у тым ліку з далёкіх Грузіі, Казахстана і з не менш далёкай Японіі) прыехалі на экалагічную канферэнцыю. Што хадзіць далёка? Беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" выступіў спонсарам толькі таму, што атрымаў інфармацыю менавіта пра сустрэчу па экалагічных праблемах. Прадстаўнік фонда Генадзь Кеснер выказаў сваё стаўленне да імпрэзы коратка і ёміста: "Гэта 10 дзён, вырваных з жыцця. У той час, калі мне трэба зрабіць столькі працы, я сяджу тут невядома дзеля чаго. Я рыхтаваўся да экалагічнай імпрэзы, мы напісалі два грунтоўныя даклады па праблеме Чарнобыля. Але гэта тут нікому не трэба." Тым не менш работа фонду была прыкметнай: арганізавалі сустрэчу з жыхарамі пасёлка "Дружны", перасяленцамі з забруджаных тэрыторый, падрыхтавалі паведамленні па Чарнобыльскай тэматыцы.

Я б не сказала так катэгарычна, што імпрэза не прынесла ніякай карысці. "Добрая тусоўка, але не больш за тое," — казалі жыхары краін СНД. "Вельмі добра, што мы змаглі сустрэцца, пазнаёміцца і пасябраваць", — пагаджаліся замежнікі. Праўда, не зусім стасавалася гэта з гучнай назвай "United Nations" (ААН). Прадстаўнік жа ААН, супрацоўнік офіса ў Вене ў прамове пад час пленарнага пасяджэння растлумачыў удзельнікам, што ААН падтрымае UNOY толькі калі яна будзе займацца рэалізацыяй маладзёжных праграм ААН. Перакладаўшы на застойна-саветызаваную мову, "камсамол — памочнік партыі", ці бліжэй за ўсё "ўнукі дзядулі Леніна — надзейная змена камсамола".

Што ж, і гэта няблага. А вось пануючым памкненнем прадстаўнікоў краін СНД (акрамя Латвіі) было прыкладна наступнае: ну калі мы ўжо сабраліся, то трэба нешта арганізаваць. Тым не менш "рускамоўныя ўдзельнікі" некалькі дзён вырашалі, ці патрэбны ім увогуле UNOY, і ці патрэбна наогул ім усё гэта. Слушнай мне падалася думка ўкраінцаў: паколькі ніхто з удзельнікаў не мае права прадстаўляць моладзь сваёй краіны, а толькі сябе, то больш мэтазгодна назваць усё гэта "рухам за стварэнне". Тым не менш, быў складзены зварот да кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, мабыць, у спадзяванні, што словы "Аб'яднаныя Нацыі" зачаруюць і яго таксама.

А замежнікі стварылі ўсё ж "нешта": было вырашана, што неабходна абраць выканаўчы камітэт UNOY. Праўда, пад час прыняцця выніковых папер удзельнікі з Галандыі, Швейцарыі, Японіі, частка прадстаўнікоў СНД пакінулі залу і не падпісалі прапанаваных дакументаў. А хлопцы з галандскага Савета маладзёжных арганізацый дадалі: *вы толькі не ўзгадвайце нашу прапанову наконт Сусветнай маладзёжнай вёскі ў Галандыі разам з UNOY. Мы не хочам, каб людзі думалі, што наша ідэя такая ж несалідная, як тая арганізацыя.*

А ў зале засталіся прадстаўнікі шэрагу афрыканскіх краін, Казахстана, Лацінскай Амерыкі. Дарэчы, з Германіі ці Англіі, ці той жа Аўстраліі на канферэнцыі не прысутнічала ніводнага чалавека. А ад Беларусі, кажучы на юрыдычнай мове, прысутнічалі "фізічныя асобы" (г.зн. не прадстаўнікі якіхсьці зарэгістраваных грамадскіх арганізацый ці афіцыйных структур), пераважна студэнты. *Дададзім*, што Камітэт маладзёжных арганізацый РБ адмовіўся падпісаць выніковыя дакументы і ўдзельнічаць ва ўтварэнні UNOY.

І — маленькае лірычнае адступленне. У інфармацыі-запрашэнні сакратарыята UNOY гаворыцца: *"канферэнцыя будзе праводзіцца ў абстаноўцы без ужывання алкаголю і нікаціну"*. Праўда, на трэці дзень закурылі нават самі замежныя арганізатары. А пра прысутнасць "russian vodka" на вечарынках (і ў дастатковых колькасцях), асабліва ў афрыканцаў, доўга казаць не буду: што было, тое было.

Так вось і атрымліваецца: не ўсё тое золата, што блішчыць, не ўсё тое UN, што UNOY. Не ўсё тое салідна і сур'ёзна, што ідзе з замежжа.

**В.АКУЛІЧ.**



Матэрыялам Л.Крыштаповіча "Талерантнасць, дэмакратычнасць, свецкасць..." (№26, "ЧЗ") рэдакцыя працягнула размову на тэму Адраджэння, тэму вельмі складаную і балючую. І як бы ні смылела ў нас на душы, як бы ні пякло на сэрцы, але выказацца нам трэба. У нашай разважлівай, памяркоўнай, чыннай гутарцы шлях да згоды, да разумення, што наша Бацькаўшчына – адна на ўсіх, незалежна ад палітычных, канфесіянальных, культурных сімпатый. Таму яшчэ раз запрашаем выказацца самыя шырокія колы грамадства. Вакацыі закончыліся, час рабіць выбар.

Сёння размова працягваецца матэрыялам І.Крука "Шляхамі Адраджэння".

# ШЛЯХАМІ АДРАДЖЭННЯ

Велізарная імперыя ўзарвалася і развалілася на шматкі. Пачаўся парад суверэнітэтаў. На пасяджэнні ВС заканадаўча замацавана незалежнасць Рэспублікі Беларусь. Сёння невялікая частка інтэлігенцыі робіць усё магчымае, каб актывізаваць працэс беларусізацыі. Гэта натуральная з'ява: самастойная краіна імкнецца ўпісацца ў кантэкст сусветнай цывілізацыі, пры гэтым спрабуе паказаць сваю адметнасць, непаўторнасць, унікальнасць. Адзін з асноўных шляхоў беларусізацыі — не проста пашырэнне сферы ўжывання нацыянальнай мовы, аб чым гаварылася яшчэ два-тры гады таму, а паэтапнае падвядзенне сацыяльна-культурнага становішча да такой сітуацыі, калі мова карэннага этнасу арганічна стане сродкам паўсядзённых зносін на розных іерархічных узроўнях дзяржаўнай структуры, а традыцыі культуры гэтага этнасу будуць вызначаць характар паводзін у сям'і, калектыве, грамадстве. Мабыць, гэта галоўнае: калі чалавек пачне-мысліць вобразамі і мовіць словамі продкаў, прытрымлівацца іх традыцый і норм звычаёвага права — створыцца нацыянальна-адметны, этнавызначальны духоўны локус (прастора) з адпаведным спектарам прычынна-выніковых сувязей.

Разам з тым праблема надання беларускай мове статуса паўсядзённа-камунікацыйнай, а культуры — нарматыўна-рэгулятыўнай, надзвычай складаная. Яе вырашэнне непазбежна запатрабуе ўлічваць цэлы шэраг гістарычных і сацыяльна-псіхалагічных акалічнасцей. Сярод іх: шырокае ўкараненне ў інфраструктуры дзяржавы рускай мовы, наяўнасць розных канфесій і нацыянальных меншасцей, адсутнасць неабходнай колькасці настаўнікаў школ і выкладчыкаў вучылішчаў, тэхнікумаў і ВНУ, нацыянальны нігілізм і інертнасць значнай часткі працоўнай і студэнцкай моладзі, нарэшце, сама неспрыяльная, нестабільная эканамічная сітуацыя. Трэба ўлічваць і фактар адаптацыі да культуры беларусаў прадстаўнікоў іншых этнасаў, каб не здарылася на Беларусі так, як раней было ў межах СССР.

Якой жа яна будзе — нацыянальная мова, на якім з існуючых яе варыянтаў будуць гаварыць дзеці ў школе, дэпутаты ў час пасяджэнняў, дыпламаты на афіцыйных прыёмах у дэпартаментах замежных краін, людзі на вуліцах? Сёння ў шырокіх колах беларускай інтэлігенцыі (у тым ліку і прадстаўнікоў нацыянальнай дыяспары) ужываюцца чатыры варыянты беларускай мовы. Міжволі думаецца, што існуючая полівар'янтнасць шматразова ўскладняе працэс адраджэння мовы, запавольвае дынаміку этнічнай кансалідацыі, уносіць элементы непаразумення ў асяроддзе творчай і навуковай інтэлігенцыі. Ці патрэбна тут спяшацца? Відаць, не. Каб даць навукова абгрунтаваны, аб'ектыўны аналіз існуючай сітуацыі і вызначыць аптымальны шлях далейшага руху наперад, патрэбна вялікая і карпатлівая праца і дапамога этнасацыёлагаў, этналінгвістаў, этнапсіхолагаў. Неабходна наперад ведаць, як адрэагуюць на нейкі варыянт мовы, што адрозніваецца ад сённяшняй літаратурнай, людзі, якія валодалі апошнім варыянтам. Ці прымуць яны яшчэ адну (ужо не першую і магчыма не апошнюю) перабудову? Я разумею, на хвалі набіраючых моц працэсаў адраджэння можна лягчэй павярнуць справу ў свой бок, бо потым, калі рухавік добра раскруцяць, гэта зрабіць будзе больш складана. Але ці трэба гэта рабіць і ці так? Ці ж можам мы не ўлічваць тую акалічнасць, што мова — жывы, пластычны, вечна рухомы арганізм, які працягваў развівацца на працягу XX ст. (няхай і ў неспрыяльных умовах); выпрацоўвалася і пашыралася нарматыўная літаратурная арфаграфія, лексіка, граматыка. Вядома, што русіфікацыя не абмінула моўныя працэсы. Пацвярджэнне таго можна знайсці на старонках газеты "Звязда" часоў перабудовы: адбывалася абвальнае засілле прамога калькіравання, пры якім аканне і зацвярдзенне надавала рускамоўнай фразеалогіі мужыцкі заземлены шарм. Але што ж нам рабіць з высокамастацкай літаратурай, паэзіяй, драматургіяй і публіцыстыкай 40—80-х гадоў, можа здаць у архіў творы І.Мележа, В.Быкава, Н.Гілевіча, А.Куляшова, А.Макаёнка, Ул.Дудара і пачаць на голым месцы (у каторы ўжо раз) ствараць Новую літаратуру, літаратуру постперабудовачнага рэалізму і неарэнесанснага рамантызму.

Увогуле на Беларусі склалася цікавая і надзвычай супярэчлівая сітуацыя. Часцей было так: народ, які скідваў з сябе ланцугі прыгнёту, у большай частцы сваёй яднаўся вакол ідэі вольнай Бацькаўшчыны. Сёння ж у нас — стракатасць імкненняў, патрабаванняў і абяцанняў. Замест таго, каб выкарыстаць спрыяльную сітуацыю для кансалідацыі этнічна зарыентаваных, этнаўсведамляючых і генетычна фарміруючых этнас-нацыю прадстаўнікоў у адзіную і непадзельную супольнасць, пачынаецца на фоне агульнасацыяльных заклікаў-дэкларацый дзяльба-цягамоціна на розных узроўнях. Прапануецца пашырэнне лексікастылёвай плыні да ўзроўню нацыянальнай мовы, мусіруецца набходнасць кардынальнай перапрацоўкі правапісу, замест таго, каб правесці неабходную, але ўсё ж рэформуўдакладненне. Нам ужо недастаткова прафесійнай самастойнасці на ўзроўні творчых асацыяцый, цэнтраў, фондаў, суполак, нам падавай рэгіянальную аўтаномію. Паволі набірае моц культурна-асветніцкае таварыства "Полісьсе", якое, меркавалася, будзе збіраць, вывучаць і пашыраць культуру пэўнага рэгіёна. Вядома ж, што кожны народ, як і кожны з нас цікавы для гісторыі сваёй непаўторнасцю, самабытнасцю. Але ж сёння таварыства "Полісьсе" ставіць на мэце стварэнне палітычна-эканамічнай аўтаноміі палескага краю.

Ёсць яшчэ адна праблема, падводныя механізмы якой дзейнічаюць ужо сёння, прычым даволі актыўна. Гэта адраджэнне-распаўсюджанне-пашырэнне каталіцызму ў заходніх рэгіёнах Беларусі. З гісторыі добра вядомы прыклады, калі рэлігія выступала ў якасці моцнай кансалідуючай сілы на дзяржаўным узроўні. Уласна кажучы, хрысціянізацыя Старажытнай Русі была скіравана на геапалітычнае аб'яднанне паасобных славянскіх плямёнаў на чале з велікакняжацкім Кіевам. Велізарную ролю ў гісторыі еўрапейскіх краін заўсёды адыгрываў каталіцызм. Ён таксама з'яўляўся моцным завуаліраваным рычагом дзяржаўнай улады. Надзвычай яскрава гэтая асаблівасць праявілася на пачатку 80-х гадоў, калі польская "Салідарнасць" заявіла аб сабе як моцнай апазіцыі кіруючай камуністычнай уладзе. Тонкі разлік Ватыкана дапамог паскорыць дынаміку палітычных працэсаў пад час абрання польскага кардынала Караля Вайтылы Папам Рымскім.

Пасля развалу былога СССР на поўдні адбываецца актуалізацыя ідэі панісламізму, ажыццяўленне якой можа прывесці да стварэння новага геапалітычнага цэнтра на тэрыторыі паміж Блізкім Усходам і Пярэдняй Азіяй. Здавалася б, няма нічога благога ў павелічэнні хрысціянскай аўдыторыі, у тым, што людзі, не верачы больш афіцыйным структурам улады, звяртаюцца са сваім болем да Бога. Але, на жаль, сёння нават ачышчэнне душы адбываецца ў нас нецывілізаваным шляхам. Царкоўныя дзеячы быццам таксама паддаліся разбуральным сілам, якія давялі да хаосу жыццё грамадства.

Вось у гэтай дзяржаўна-неправавой саматужнасці прымаюць удзел і прадстаўнікі розных канфесій. Прычым, думаецца, што на Беларусі праблема асэнсаванага прыняцця пэўнага веравызнання звязваецца ў вельмі складаны вузел. Справа ў тым, што аб'яўлены нацыянальны суверэнітэт ліквідаваў размеркавальную функцыю былога Цэнтра практычна ва ўсіх галінах дзейнасці грамадства. І хаця пакуль што нафту і газ, вугаль і метал, і многае іншае мы атрымліваем з Усходу (Расіі), тым не менш дэкларуем поўную незалежнасць, і ўсё ж ломім шапку перад Захадам. У гэтую сістэму функцыянальнай пераарыентацыі лёгка ўкладваюцца і заканамернасці духоўна-хрысціянскага адраджэння. Праваслаўная царква, цалкам зарыентаваная на месіянерства Трэцяга Рыму (Масквы), разумее сваё новае становішча і таму паводзіць сябе не так актыўна, як гэта робяць каталіцкія клерыкалы. Апошнія, добра ведаючы папярэднюю гісторыю і асабліва першай паловы XX ст., імкнуцца вярнуць сабе былых даваенных парафіян. Прычым іх задачы спрошчваюцца тым, што ім не трэба весці адкрытае наступленне. Гэтую ролю замест іх выконвае уніяцкая канфесія, якая прэтэндуе на ролю этнанацыянальнай рэлігіі.

Паўтараем, мы цалкам падзяляем і падтрымліваем тэндэнцыю пераарыентацыі духоўнага светапогляду нацыі ад навязанага сілаю марксізму-ленінізму да адпрыродна-генетычна запраграміраванага звароту да Бога, аднак характар дзейнасці некаторых клерыкалаў і іх фанатычных парафіян насцярожвае і выклікае пэўныя развагі і паралелі (для прыкладу досыць Нагорнага Карабаха, жорсткага серба-харвацкага канфлікту ў былой Югаславіі). Прадбачым, як шматлікія нашы апаненты зараз жа не пагодзяцца з апошнімі словамі. Маўляў, на Беларусі гэта немагчыма, таму што нават у такі складаны час, як апошнія два-тры гады, у рэспубліцы не было асабліва вострых канфліктаў паміж дзяржаўнымі структурамі і народам, які выходзіў на мітынг, паміж рознымі партыямі і г.д. Так, не было масавага гвалтавання, разні, перастрэлкі. Ад гэтага, магчыма, нас страхуюць спрадвечныя цярплівасць, адкрытасць, духоўны менталітэт. Але ў сувязі з гэтым хочацца нагадаць выпадкі з маёй фальклорнай практыкі ў заходніх раёнах рэспублікі. У адной з вялікіх вёсак Ляхавіцкага раёна ёсць два храмы аднаго Бога: і царква і касцёл, але гэтага дастаткова, каб людзі — парафіяне розных канфесій — не садзіліся за адзін стол нават на вяселлі ці памінках. Гэта было раней, а сёння сітуацыя абвастраецца яшчэ больш. І не трэба змоўчваць аб гэтым, рабіць выгляд, быццам тут няма праблемы. Ёсць, а надалей яна будзе пашырацца і невядома да чаго можа прывесці. А там, дзе актыўна ідзе працэс акаталічвання, адначасова пашыраецца ўплыў польскамоўнай культуры, адбываецца пераарыентацыя значнай часткі насельніцтва рэспублікі ў бок свайго заходняга суседа. Гэтаму спрыяе добрае валоданне старэйшым пакаленнем польскай мовай, шырокія сваяцкія сувязі з Беласточчынай — былой часткай нашай этнічнай Бацькаўшчыны. Не апошняе месца ў пераарыентацыі псіхалогіі заходніх беларусаў займае і больш выгаднае эканамічнае становішча Польшчы, больш высокі ўзровень жыцця і большая адкрытасць яе да сувязей з еўрапейскім агульным рынкам.

Немагчыма абмінуць яшчэ адну праблему, якая сёння зноў-такі вырашаецца спантанна, хаатычна. Беларусь, пачынаючы з тых часоў, калі этнічны арэол адпавядаў межам XIX—XX ст.ст. (зразумела, памятаючы, што сённяшняя сітуацыя не адпавядае рэаліям XIX — пачатку XX ст.), пастаянна знаходзілася на мяжы паміж еўрапейскай цывілізацыяй і рускамоўным Усходам. Пры гэтым у розныя часы дамініравала ўздзеянне ці з аднаго, ці з другога боку, і было амаль што заканамернае хвалепадобнае чаргаванне. Апошнія шэсць-сем дзесяцігоддзяў адбывалася выцясненне беларускай нацыянальнай культуры з боку маскоўскага цэнтра. Сёння гэты працэс спрабуюць прыпыніць, хаця канчаткова спыніць яго будзе не так проста (асноўны эфірны час у сродках масавай інфармацыі займаюць расійскія каналы, адтуль жа мы атрымліваем асноўны корпус часопісаў і газет, кніг, фільмаў і г.д.).

Спрабуючы прыпыніць ці хоць бы зменшыць уплыў рускамоўнай інфармацыі (асэнсаванне, кадзіраванне і трансляцыя якой адбываецца з улікам імперскіх амбіцый афіцыйных структур Расіі), палітолагі і культуролагі нашай рэспублікі, следам за эканамістамі і камерсантамі, паварочваюцца да Захаду. Зразумелай і абгрунтаванай можна назваць палітыку нашых афіцыйных структур, якая скіравана на пашырэнне міжнароднага аўтарытэту рэспублікі, на наладжванне дзелавых сувязей з еўрапейскімі партнёрамі, тым самым паступова, але настойліва ўвязвацца ў сацыяльна-эканамічны кантэкст агульнаеўрапейскага супольніцтва. І вось ужо мы радуемся так званай гуманітарнай дапамозе Захаду, уласнаручна абдымаем камівояжораў ад палітыкі і бізнесу Амерыкі і Германіі, іншых краін. Вось ужо Папа Пій II чытае пропаведзі на нашым нацыянальным узмежжы.

Часта задумваюся: чаму так скоса глядзяць адзін на аднаго амерыканскія і японскія бізнесмены, якія, як вядома, канкурыруюць між сабой у справе перадавых тэхналогій, і чаму ледзьве не слёзы замілавання выступаюць на вачах нашых прадстаўнікоў улады, калі вітаюць заходніх заправіл улады. Думаецца, як бы не стала гуманітарная дапамога тым жыўцом, заглынуўшы які мы не зможам устаяць перад апошнім этапам усё той жа амерыканізацыі і ці не станем яшчэ адным рэгіёнам збыту для магутнай індустрыі ЗША—Германіі. Чаму такі дабрачынны Захад не хоча паставіць нам супермадэрновыя тэхналогіі, каб мы самі маглі выпускаць тэхніку найвышэйшых стандартаў і захапіць работай сваіх братоў і сясцёр, усіх суайчыннікаў.

Скажыце, калі ласка, ці ж будзе балець галава ў заходняга бізнесмена аб тым, на якім варыянце мовы будзе гаварыць беларуская нацыя, ці ж захоча ён паспрыяць перакладу нашых літаратурных твораў на мовы іншых народаў свету, ці стане ён выдаткоўваць грошы, каб наш фермер прыдбаў танную касілку-жняярку?.. Прыйдзе ж такое ў галаву — глядзіш і нейкі новы жанр фантастычнай літаратуры народзіцца.

Перакананы, што толькі зварот да спадчыны продкаў дапаможа нам у працэсе сталення і кансалідацыі. Прычым у гэтым звароце патрэбны падыход не на аснове этнаграфічнага рамантызму (новабудоўля з саламянай страхой, саха, ярмо на шыі валоў, моладзь у лапцях...), а на аснове выкарыстання скандэнсаванай на працягу стагоддзяў духоўнай энергіі нацыі на шляху сацыялізацыі новай асобы ў новым грамадстве.

**І. КРУК,**
**кандыдат філалагічных навук.**

*Рэпартаж у нумар*

## "БОГ ЕСТЬ ЛЮБОВЬ"

Менавіта пад такім дэвізам з 27 па 30 жніўня праходзіла ў Сонечнагорскім раёне Маскоўскай вобласці другая міжнародная летняя біблейская канферэнцыя. Ініцыятарамі і арганізатарамі канферэнцыі сталі карэйскія місіянеры. На гэта мерапрыемства мы запрасілі людзей, што вывучаюць Біблію і без скептычных ухмылак адносяцца да Бога, якія вераць у яго існаванне і стараюцца жыць па яго запаветах.

Усяго ж на канферэнцыі прысутнічала звыш чатырохсот чалавек з розных краін свету. Былі тут групы з Карэі і Англіі, Германіі і Даніі, ЗША і Нідэрландаў, Венгрыі і Румыніі, Беларусі і Латвіі, Санкт-Пецярбурга і Алма-Аты, Масквы і Кіева... Усе нават цяжка пералічыць.

Асноўнай задачай канферэнцыі стала вывучэнне прысутнымі Новага Запавету, абмеркаванне многіх яго частак. Апошняе, дарэчы, не заўсёды атрымлівалася: перашкаджаў моўны бар'ер. Але добра ўжо і тое, што людзі стараліся зразумець і прыняць слова Божае.

На працягу чатырох дзён прысутныя слухалі пропаведзі, якія заўсёды пачыналіся гімнамі хрысціян і малітвамі. Розныя людзі з розных краін чыталі гэтыя пропаведзі. Але агульным у іх быў адзін заклік: прыйдзіце да Бога, ён вас чакае.

У суботу, 29 жніўня, пасля вячэрняй пропаведзі адбыўся даволі цікавы канцэрт, у якім талентамі бліснулі розныя дэлегацыі. Спадабаліся прысутным і выступленне дзяўчыны Марычкі з Латвіі, і кадрыля, якую "выдалі" хлопцы і дзяўчаты з Санкт-Пецярбурга, і ўкраінскі гапак... Але асабліва запомнілася выступленне амерыканскіх удзельнікаў. Апошнія, дарэчы, не адзін раз прыходзілі на дапамогу арганізатарам канферэнцыі, радуючы прысутных сваімі песнямі і класічнай музыкай. Хочацца адзначыць, што ім маглі б пазайздросціць нават многія прафесіянальныя калектывы. Адным словам, малайцы амерыканцы!

...Чатыры дні праляцелі вельмі хутка. І вось – трыццатае, апошні дзень канферэнцыі, апошняя пропаведзь, развітальныя словы вядучага. Хтосьці чакаў гэтага дня асабліва (надакучыла ўсё), а для кагосьці ён быў вельмі і вельмі сумным: прыходзілася развітвацца з новымі знаёмымі, сябрамі... Але нічога не зробіш. І вось ужо аўтобусы імчаць усіх на Маскву, адкуль удзельнікі канферэнцыі раз'едуцца па ўсёй Зямлі. Кагосьці чакаюць у Латвіі, кагосьці – у ЗША. Адным словам, другая міжнародная летняя біблейская канферэнцыя адышла ў гісторыю.

Але засталіся ўспаміны, засталіся новыя сябры і засталося чаканне новай, трэцяй канферэнцыі, што мае адбыцца праз год. А ў многіх, акрамя гэтага, засталіся ў сэрцы словы Бібліі: "Бог есть любовь".

**Франц ЛЯВІЦКІ.**
**Фота аўтара.**



*1 верасня — Дзень ведаў*

*Настальгія*

# АДНОЙЧЫ – НАЗАЎСЁДЫ

Верасень украў лета, заблытаў яго ў тонкай празрыстай павуцінцы, абмыў доджджыкам, гушкае на танюсенькіх павучыных красёнцах, нібы на арэлях. Кідай купацца, загараць, кідай бегаць навыперадкі з ветрам — гайда ў школу, за кніжкі! Школа ў верасні такая прыгожая: яшчэ чыстая, бліскучая падлога, яшчэ свежая фарба на падаконніку, яшчэ няма на ёй палкіх прызнанняў у каханні кшталту "Маша+Міша=..." О, гэтая вечная задачка — яшчэ ніхто, мабыць, не даў на яе канкрэтнага адказу. На клумбах, у школьным двары — астры, гладыёлусы, вяргіні пышныя, урачыстыя, радасныя. Свята.

Гэтых хлопчыкаў ды дзяўчынак, што прыйшлі сёння ў МАЮ школу слухаць званок і не чуць яго песні, бо круціцца-вярцецца, скакаць, штурхацца — вучыцца, гэтых дзетак я ўжо не ведаю. Нікога. Пайшоў другі дзесятак з таго часу, як адзвінеў МОЙ апошні школьны званок, а я ўсё прыслухоўваюся кожны новы верасень да яго ўрачыстае песні. І шчымлівы боль, і светлы сум... Настальгія!

Хто сказаў, што пара мне забыцца
Пра школу?
Не паверу, няпраўда!
Ёсць сувязь, якой не парвеш.
Паглядзі, выпускнік,
азірніся наўкола –
Вечны вучань жыцця,
ты ў вечнае школе жывеш.
Не заўсёды тады разумелі мы вас,
Не журыце, настаўнікі, й нашага брата,
Скіньце годзікаў "наццаць",
Запішыцесь навечна ў дзесяты:
Уздыханні–каханні,
а тут яшчэ – практыкаванні,
Цалавацца б употай–
дый займайся кантрольнай работай...

У трэцяй Лепельскай школе талентаў — хоць гаць гаці. На ўроках працы дзеткі майструюць, вышываюць, вяжуць, лепяць. Дапамагаюць ім дарослыя. Хто не помніць выставу "Мама, бабуля і я — майстрых сям'я", якая экспанавалася тут летась. Тканыя посцілкі, абрусы, ручнікі, шматколерныя, дэкаратыўныя, зробленыя з ільну і воўны. Узоры на іх разнастайныя, у арнаменце. Вялікае мноства колеравага і кампазіцыйнага пабудавання. Тут можна было ўбачыць трапкач, у якім даўно насілі ў поле ежу, а таксама сучасныя фіранкі, сурвэткі, настольнікі, упрыгожаныя вышыўкай лічанай і адвольнай гладдзю, крыжыкам, procцягам.





Вось яны, юныя майстрыхі — усіх і не пералічыш, а вельмі хацелася б: Бондар Света, Дзівіна Лена, Закрэўская Маша, Кузьмічонак Таня, Ляошка Каця, Лагіновіч Надзя, Макарава Света, Мамедава Сабіна, Міхно Віка, Майсейчанка Лена, Памяціха Лена, Сцяпанава Наташа, Тарговец Алеся, Ушакова Аня, Хадатовіч Лена. Бачыце, цэлы атрад. А ўзначальвае творчы калектыў настаўніца працы Валянціна Уладзіміраўна Ганчар. Дзіва, што адміністрацыя школы збіраецца аддаць сёлета былы піянерскі пакой пад музей народнай творчасці. І правільна зробіць. Хопіць даваць урачыстыя клятвы. Настаў час сваімі рукамі багацце множыць.

Уладзімір МІХНО.
Фота М. КАЛУГІНА.




На пачатку новага навучальнага года варта нагадаць усім, хто шчыруе на ніве нацыянальнага адраджэння, пра асноўныя матэрыялы летніх нумароў часопіса "Роднае слова" ("Беларуская мова і літаратура ў школе"). Магчыма, яны прыдадуцца вам да справы.

Найперш звернем увагу на тое, што ў №№ 5 і 6 часопіса змешчана абноўленая Праграма па беларускай літаратуры для VIII–XI класаў з паглыбленым вывучэннем роднай літаратуры. Дэбаты наконт яе ў педагагічным асяродку пачаліся ўжо, як і чакалася.

Настаўнікаў, студэнтаў, школьнікаў (асабліва будучых абітурыентаў) зацікавіць таксама Праграма-праспект па беларускай літаратуры для VIII–XI класаў сярэдняй школы. У праграме канспектыўна выкладзены асноўныя звесткі па гісторыі нашага прыгожага пісьменства, яна падрыхтавана акадэмічным Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы. Праграма-праспект друкуецца з № 6 з прадаўжэннем.

Шэраг артыкулаў, якія змешчаны ў летніх нумарах часопіса, прысвечаны юбілею Янкі Купалы. У № 6 расказваецца пра новы філіял музея Янкі Купалы на Лагойшчыне, пра сяброўскія адносіны Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама пра тое, як адбывалася пахаванне і перазахаванне праху Песняра, увекавечанне яго памяці. Матэрыялы багата ілюстраваныя. У № 7–8 (здвоеным) падаецца методыка вывучэння лірыкі Купалы ў X класе, аналізуюцца адметнасці яго мовы, змешчаны артыкулы "Янка Купала на Падняпроўі", "Янка Купала і Слонімшчына", нататкі пра радаводныя карані Песняра на Стаўбцоўшчыне, пра мемарыяльны запаведнік "Вязынка". У летніх нумарах надрукаваны распрацоўкі асобных урокаў, прысвечаных творчасці Купалы і Коласа.

Лета было шчодрым на літаратурныя юбілеі. У № 6 часопіс змясціў артыкул 50-гадовага юбіляра Вячаслава Рагойшы "Вяртанне да Львова", нататку пра этнографа Мітрафана Доўнар-Запольскага і яго цікавую этнаграфічную карту. Часопіс падае шэраг матэрыялаў, прысвечаных 75-гадовым юбілеям Пімена Панчанкі і Янкі Брыля (У № 7–8 чытайце інтэрв'ю з Піменам Панчанкам, яго ўзяў паэт Міхась Скобла), нататкі пра творчасць Панчанкі, сцэнар літаратурнай вечарыны паводле твораў паэта і нататкі пра яго маленства. У гэтым жа, здвоеным нумары – гістарычны каментар па аповесці Янкі Брыля "Сірочы хлеб" і нататкі да юбілею аўтара гэтага хрэстаматыйнага твора – "Кніга яго жыцця". На ўнутраных старонках вокладкі № 7–8 змешчаны фотаздымкі гэтых патрыярхаў беларускай літаратуры з іх аўтографамі для чытачоў часопіса.

З сучасных літаратурных імёнаў, да якіх звярнуўся часопіс улетку, згадаем яшчэ 60-гадовага юбіляра Адама Мальдзіса (у № 7–8 чытайце яго артыкул "Беларускае барока"), Уладзіміра Някляева (яго творчы партрэт у № 6), Уладзіміра Арлова (разглядам яго творчасці ў № 6 заканчваецца агляднаы артыкул Алеся Бельскага пра маладую беларускую прозу).

Настаўнікам (найперш) раім засяродзіць увагу на вялікай падборцы артыкулаў пра настаўнікаў-наватараў Бярозаўшчыны (№ 6), на нататках Івана Навуменкі пра гісторыю стварэння камедыі "Пінская шляхта" (№ 7–8), на вопыце стварэння ў школе фальклорнага гуртка (артыкул Яўгеніі Чаплінскай "Фальклорны гурток", (№ 7–8).

У летніх нумарах часопіса "Роднае слова" вы зможаце прачытаць і іншыя цікавыя артыкулы. Зможаце, калі... знойдзеце часопіс: больш чым 95 працэнтаў яго накладу распаўсюджваецца па падпісцы.

Агляд летніх нумароў
часопіса падрыхтаваў
Іван Жлановіч,
супрацоўнік
рэдакцыі часопіса.

## Брату-вучыцелю

Сей, браце мой мілы, сей
поўнаю жменяй,
Загон свой гусцей засявай.
Ціхутка і роўна, ня болей,
ня меней,
Ад краю загона ў край.
Хай віхры бушуюць, гудуць
навальніцы,
А ты ні на што не зважай —
А крокам за крокам па свежай
зямліцы
Упярод ды ўпярод падступай,
Не бойся, мой брат,
не загінуць зярняты,
Што ўкінеш ты вернай рукой,
Як дар яны з неба там будуць
прыняты
Даўно ўгатаванай раллёй.
Задзівішся сам ты, як сонца
прыгрэе,
Што стане з тваёй паласы,
Як буйна на вочах яна зарунее,
Як хутка ўсплывуць каласы.

Ігнат Дварчанін.



# ШКОЛЬНЫ ГУМАР

Настаўнік кажа:

– Я пастаўлю адзнаку на бал вышэйшую таму, хто пойдзе адказваць першым.

– Пастаўце мне "тройку". Я іду,– падхопліваецца Вася.

* * *

Настаўніца матэматыкі тлумачыць новыя правілы.

– Зараз зробім вывад,– кажа яна.– Хто будзе адказваць?

Руку падымае Зіна.

– Калі ласка, Зіна.

Зіна ўстала і кажа:

– А што ён паперкамі кідаецца!..

* * *

– Што бліжэй да нас: Месяц ці Аўстралія?

– Месяц. Я яго бачу, а Аўстралію не!

* * *

– Дзеці,– кажа настаўнік,– сёння ўвечары будзе зацьменне Месяца. Гэта – адна з самых найцікавейшых з'яў прыроды. Не забудзьце паглядзець яго роўна ў 21.45!

Зацікаўлены голас аднекуль з задніх парт:

– Па якой праграме?

* * *

– Вось табе цукеркі. Падзялі іх па-брацку са сваім таварышам.

– А як гэта па-брацку?

– Вазьмі сабе меней, а яму аддай болей.

– Тады я ўсе цукеркі аддам яму, няхай ён іх і падзеліць па-брацку.

* * *

Старэйшая сястра пытаецца ў малодшай:

– Наташа, ты пішаш у маім сшытку?

– А хіба ён твой?– здзівілася дзяўчынка.– Тут жа напісана "Общая тетрадь".

* * *

Вельмі хацелася пяцікласніку Пецю вызначыцца перад аднакласнікамі. Толькі вось як? Думаў ён думаў і вырашыў напісаць вершы ў сценгазету. Увесь вечар над імі сядзеў. І напісаў. Доўгія. А напрыканцы так:

У вершах я хачу сказаць:
Вучыцца трэба нам на "пяць"!

Толькі не давялося Пецю аддаць вершы рэдактару. Перад урокамі не паспеў, а на перапынку позна ўжо было. На першым уроку Пецяа "двойку" атрымаў. Урокі ж вывучыць не было часу. Шкада! Такія добрыя вершы прапалі.

* * *

На ўроку геаграфіі настаўнік пытаўся пра мусоны. А Саша не вывучыў.

– Мусоны... гэта...– і ён замоўк.

– Ну, што ж гэта, нарэшце?

Маўчанне.

Тады настаўнік жартам запытаўся:

– Можна іх хаця есці ці не?

– Можна...

– Няўжо?! З капустай ці з бульбаю?

– З бульбаю...

З таго часу і прыліпла да яго мянушка "Мусон з бульбаю".



*Інтэрв'ю ў нумар*

## ЗАЗІРНЁМ ПАД ПРЫЛАВАК?

Людзей хвалюе нязвыкла вялікая колькасць тавараў у дзяржаўных і камерцыйных крамах. Але ці ўсе з іх якасныя? Мы звярнуліся да начальніка ўпраўлення дзяржаўнай інспекцыі па гандлю і абароне правоў спажыўца пры Савеце Міністраў РБ па Мінску і Мінскай вобласці У.М. Міхневіча.

– Існуе думка, што зараз куды больш гандлёвых парушэнняў адбываецца ў камерцыйных структурах, чым у дзяржаўным гандлі. Ці гэта адпавядае сапраўднаму становішчу?

– Калі казаць пра парушэнні, іх хапае і ў адных, і ў другіх. Сапраўды, зараз у дзяржаўным гандлі з'яўляецца больш тавараў, што раней былі дэфіцытнымі. Але цэны на іх узраслі настолькі, што колькасць раней традыцыйных парушэнняў, такіх, як прыхоўванне тавараў, "гандаль з-пад прылаўка", і да т.п. знізілася. Тым не менш, у сувязі з чуткамі пра павышэнне цэн захоўваецца ажыятажны попыт на цэлы шэраг тавараў, і, вядома, існуюць звязаныя з гэтым парушэнні.

Што ж датычыць камерцыйных структур, дык тут у асноўным выяўляюцца завышэнні цэн, нацэнкі, якія даюць звышпрыбыткі. І сказаць, дзе больш парушэнняў, я не магу: тут усё залежыць ад людзей.

– У сувязі з пэўнай лібералізацыяй гандлю вінна-гарэлачнымі вырабамі, у камерцыйных крамах з'явілася шмат разнастайнага тавару гэтага асартыменту. Часта такая прадукцыя бывае досыць сумніцельнай якасці, мае месца падробка тавару... Часам змест проста не адпавядае этыкетцы...

– Мы кантралюем такую прадукцыю. Калі выяўляюцца факты падробкі (напрыклад, быў выпадак, калі пад выглядам каньяку прадавалася падфарбаваная вада з невялічкім дадаткам спірту), тады тавар здымаецца з продажу. Калі частка прадукцыі была раней рэалізавана, уся выручка канфіскоўваецца ў бюджэт. Да таго ж на вінаватых накладваецца штраф у такім жа памеры. Матэрыялы могуць накіроўвацца і ў следчыя органы.

Мы можам штрафаваць і канкрэтных асобаў. Так, каля месяца таму ў адной з крамаў Партызанскага харчгандлю выявіўся факт продажу смятаны 25-працэнтнай тлустасці (а рэалізоўвалі, як 30-працэнтную). Былі аштрафаваны прадаўцы, матэрыяльна адказныя асобы, кіраўніцтва крамы на агульную суму болей за 10 тысяч рублёў.

– Пачатак восені – час садавіны і агародніны. Ці ўплывае гэта на накірунак дзейнасці інспекцыі?

– Так, зараз вялікую ўвагу ўдзяляем кантролю за, напрыклад, школьным харчаваннем, гандлем сельскагаспадарчымі прадуктамі. Выяўляецца шмат маніпуляцый з вымяральнымі прыборамі, гірамі. Мае месца ў такі перыяд сістэматычнае абважванне пакупнікоў...

Пакуль не спынены рост цэн, эканамічныя працэсы застаюцца хаатычнымі. У такіх умовах актывізуюцца нячыстыя на руку людзі. Парушэнні будуць, пакуль не запоўніцца існуючы цяпер "вакуум законаў". Патрэбны вялікія намаганні з боку дзяржавы, Саветаў, кантралюючых органаў, каб прадухіліць парушэнні, якія часам выклікае само заканадаўства.

Як бачым, гандлёвая інспекцыя працуе. Але, сапраўды, без трывалых законаў, без дакладнага парадку продажу і перапродажу тавараў пакупнік не можа лічыць сябе надзейна абароненым ад ашуканцаў. Ідзе час. Тое, што раней лічылася злачынным, становіцца законным. Але гэта вымагае ад заканадаўцаў яшчэ большай дакладнасці, пільнасці.

В. АКУЛІЧ.

# Паэт і ГРАМАДЗЯНІН

**З паэзіяй Някрасава мы знаёмімся вельмі рана, задоўга да школы, яна суправаджае нас з самага маленства і юнацтва, з першых школьных хрэстаматый. Яшчэ не ведаючы імені паэта і не ўмеючы чытаць, мы чуем яго песні "Карабейнікі", "Што ты прагна глядзіш на дарогу..." Бо ўсе ў Расіі і Беларусі, ва ўсім славянскім свеце – сама атмасфера, усё паветра напоўнена словам Някрасава, яго шырокай напеўнасцю, любоўю да роднай зямлі.**

Дзіцячыя гады ідуць непрыкметна, і, калі мы адужаем буквар, са старонак гэтай, бадай што, першай нашай кніжкі закрочыць у наша быццё хлапчук-мужычок, які адвозіць з лесу дровы...

І як бы нас ні песцілі бацькі, якімі б непаседамі мы ні былі, а някрасаўскі хлопчык трывожыць нашу фантазію. І гэткі ж малы, як ён, ты пераймаеш у яго непрыкметна для сябе і любоў да працы, і адказнасць за даручаную справу. Многае закладзена ў гэтых слаўных старонках!

Потым мы станем смяяцца з генерала Таптыгіна і радавацца дзядулю Мазаю, які выратаваў бедных зайцоў ад горкага лёсу. І зноў-такі непрыкметна для нас зерне добрага смеху і спагады да чужых нягод будзе пасеена ў нашым сэрцы.

На прыроду мы таксама глядзім вачамі Някрасава і сто разоў, успамінаючы зімовы пейзаж, паўтараем ягоныя радкі:

*Не ветер бушует над бором,*
*Не с гор побежали ручьи,*
*Мороз-воевода дозором*
*Обходит владенья свои.*

Усё наша дзяцінства не толькі звязана, але прасякнута някрасаўскай паэзіяй. Яна не толькі наша школьная, а хатняя настаўніца, добрая, ласкавая, ненадакучлівая. І, уступаючы ўжо ў юнацтва, нам не прыходзіцца нанава адкрываць для сябе творчасць вялікага паэта. Натуральна, што без усялякіх намаганняў са свайго боку мы тады ж звяртаем увагу на іншыя матывы яго вершаў і паэм. Да сівых валасоў будзем памятаць маральны запавет і мудрую канцоўку верша "Зялёны шум".

*Люби, покуда любится,*
*Терпи, покуда терпится,*
*Прощай, пока прощается,*
*И — бог тебе судья!*

Галоўны матыў някрасаўскай творчасці — яго беззапаветная і ўсеабдымная любоў да народа. Любоў дзейсная, актыўная, перспектыўная — тая, што складае служэнне народу. Чалавечы, творчы, грамадскі подзвіг Някрасава заключаецца менавіта ў тым, што ў нялёгкіх умовах свайго часу ён запаліў у сваёй душы геній сапраўднага паэта-грамадзяніна.

Услед за пушкінскім "Анегіным" някрасаўская паэма "Каму на Русі жыць добра", бадай, самая энцыклапедычная з'ява ў рускай паэзіі нашага даўняга і нядаўняга мінулага. Бачу толькі адну розніцу паміж імі — гэта хоць і паралельна блізкія, але далёка не аднalінейныя, нават хутчэй сустрэчныя патокі мастацкага пазнання рэчаіснасці: пушкінская плынь — ад вяршыні да каранёў, някрасаўская — ад асновы да кроны. Прычым, гэта ніяк не раз'ядноўвае іх, а, насупраць, яднае. Урэшце, народ адзін.

Чалавек і вайна... Аглядваючыся на гісторыю, цяжка называць спалучэнне гэтых паняццяў сухім словам "праблема". Яшчэ цяжэй вырашаць яе на чыстым аркушы паперы ў мастацкіх вобразах, калі гэта праблема стала галоўнай праблемай сучаснага свету, і мера адказнасці пісьменніка пры гэтым множыцца на мільярды жыхароў нашай планеты. У мінулым стагоддзі Мікалай Аляксеевіч Някрасаў выказаў у вершах высокагуманістычны погляд на вайну, уласцівы лепшым людзям свайго і нашага часу, з вычарпальным лаканізмам і гранічнай яснасцю:

*Внимая ужасам войны*
*При каждой новой жертве боя,*
*Мне жаль не друга, не жены,*
*Мне жаль не самого героя...*
*Увы! Утешится жена,*
*І друга лучший друг забудет;*
*Но где-то есть душа одна —*
*Она до гроба не забудет.*

"Цудам радзімы сваёй" здаецца мне ваяўніча-маланкавая грамадзянская паэзія Някрасава. Азірнёмся на жыццёвы шлях вялікага паэта, без спасылкі на які не зусім будуць ясныя асобныя бакі яго грамадскага быцця.

Мікалай Аляксеевіч Някрасаў нарадзіўся ў Німіраве, на Украіне.

Вырас на Яраслаўшчыне ў памешчыцкай сям'і, прыгонныя парадкі былі знаёмы яму з маленства і з маленства ж выклікалі да сябе агіду. Адна толькі мацярынская любоў выратавала дзіцячую душу ад жахаў, якія яго акружалі, і пакланенне перад памяццю заўчасна згаслай маці суправаджала паэта ўсё жыццё.

Бацька хацеў для сына ваеннай кар'еры, але семнаццацігадовы юнак знайшоў у сабе сілы супрацівіцца гэтаму намеру і вырашыў паступіць ва універсітэт. За такое свавольства ён быў пазбаўлены матэрыяльнай падтрымкі, і становішча яго ў чужым горадзе аказалася адчайным.

Калі Някрасаў прыехаў у Пецярбург, ён і не здагадваўся, што праз некалькі гадоў яго імя будзе вядома ўсёй Расіі, што ён стане не толькі славутым рускім паэтам, але і адным з галоўных арганізатараў літаратурных сіл свайго часу. Ён марыў толькі аб адным — вучыцца і пісаць вершы.

Ва універсітэт, куды імкнуўся Някрасаў, паступіць не ўдалося — надта беднымі аказаліся веды, атрыманыя ў гімназіі. Некалькі вершаў, надрукаваных у розных часопісах, не прынеслі яму ні вядомасці, ні сродкаў для існавання. Пачалося жыццё, поўнае беднасці і нястач. Пазней Някрасаў расказваў, што "бывалі тады такія цяжкія для яго месяцы, што ён кожны дзень ішоў на Сянную плошчу і там за пяць капеек або за кавалак белага хлеба пісаў сялянам пісьмы, прашэнні, а ў выпадку няўдачы на плошчы адпраўляўся ў казначэйства, каб распісацца за непісьменных і атрымаць за гэта некалькі капеек".

Але жыццёвыя нягоды не зламалі Някрасава. Нават няўдача першага яго паэтычнага зборніка "Мары і гукі" не збянтэжыла паэта. Ён разумеў, што яму нічога не застаецца рабіць, як толькі працаваць.

Што толькі ні пісаў ён у тыя гады: апавяданні і аповесці, п'есы і вадэвілі, крытычныя артыкулы і рэцэнзіі, азбукі і казкі ў вершах для лубачных выданняў. Дзвесце-трыста друкаваных аркушаў — такая яго прадукцыя за гэты час. Лічба фантастычная, але нястача падганяла, а юнак быў таленавіты і працавіты і, выхаваўшы ў сабе якасці літаратара-прафесіянала, умела іх прымяняў на справе...

У 1842 г. адбылася падзея, якая з'явілася паваротнай у жыцці Някрасава — ён пазнаёміўся з Бялінскім, які прыняў самы гарачы ўдзел у лёсе маладога літаратара. Крытык убачыў у Някрасаве незвычайнага чалавека, усяляк садзейнічаў развіццю яго таленту, далучыў яго да спраў, якімі жыла тады лепшая частка рускай інтэлігенцыі, дапамог яму падняцца да ўзроўню перадавога і высокаадукаванага дзеяча.

Але ў той жа час некаторыя з тых, хто добра ведаў Някрасава, адзначалі, што ён быў складаная натура. На яго паклёпнічалі, прыпісвалі і грахі ўяўныя. Знаходзілі нібы неадпаведнасць ладу яго жыцця зместу паэтычнай творчасці. Тыя, хто гаварыў пра яго блага, не надта задумваліся аб вытоках некаторых яго ўчынкаў. Дарагою, часам не вельмі прымальнаю з пункту гледжання строгай маралі, цаной ён ратаваў свае часопісы. Калі яго і нельга тут цалкам апраўдаць, дык зразумець можна.

Ён спрачаўся з сучаснікамі, і сучаснікі спрачаліся з ім. Яго славутае крэда: "поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан",— успрымалася многімі як здрада мастацтву. Так думалі Тургенеў, Талстой. Нават Дастаеўскі, які пад канец жыцця паэта памірыўся з аўтарам "Апошніх песень" і ягонай творчасцю, усё ж не ўтрымаўся, каб не папракнуць Някрасава за ўсё той жа "тэарэтызм", за пэўную неарганічнасць быццам бы ў мастацкім выяўленні народнага жыцця...

Завяршаецца дваццатае стагоддзе, тэхнічны прагрэс мяняе псіхалогію людзей, бліжэй стаў космас, але душа чалавека застаецца гэткай жа чулай да чалавечых пакут, дабрыні. І тут вершы Някрасава па-ранейшаму застаюцца чыстай крыніцай любові да чалавека, шчырасці і спагады...

А якое сэрца можа быць раўнадушным да той прарочай веры паэта ў сваю Айчыну, будучыню якой ён прадбачыў яшчэ з мінулага стагоддзя.

М.А.Някрасаў пісаў, што "толькі той сябе перажыве", хто аддае жыццё "на барацьбу за брата чалавека". І сам ён таму перажыў сябе і застаўся ў памяці ўдзячных нашчадкаў...

Прапаную чытачам "Чырвонай змены" вершы М.А.Някрасава на беларускай мове ў маіх перакладах.

Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ.



Мікалай Някрасаў

## БУРА

*Любачка-суседка мне шапнула зранку —*
*Разважала доўга: "Ведаеш альтанку*

*ў садзе?.. Як сцямнее — разумееш ты?..*
*Я чакаў накутна шэрай цемнаты!*

*Кроў жа — маладая: закініць — не жарты!*
*Ды надвечар збытаў мне ўсявышні карты...*

*Неба абкладала хмарамі кругом...*
*Дождж залеўны ўдарыў — пракаціўся гром!*

*Я нахмурыў бровы, на душы — адчай:*
*"Сёння з ёй сустрэцца — нават не жадай!"*

*Ах, галубка Любка — дзеўка-чараўніца,*
*За вароты ў буру выбегчы баіцца.*

*Пэўна, навальніца б ёй не замінала,*
*Каб яна, панечка, моцна пакахала...*

*Але ўсё ж, самотны, крочу я ў альтанку,*
*Падышоў і бачу — Любачку-каханку!*

*Вымакла да ніткі, скалелі ногі...*
*Мне было прыемна абагрэць нябогу!*

*Ды з той ночкі броваў болей я не хмуру,*
*Усміхнуся толькі, як пачую буру.*

* * *

*Што ні год — памяншаюцца сілы,*
*Кроў стамляецца, розум здае...*
*Родны краю! Дайду да магілы,*
*Не пабачыўшы волі тваё!*

*Ды жадаў бы я ведаць прад сконам,*
*Што абраў ты праменісты шлях,*
*Што ратай твой над веснім загонам*
*Бачыць ранак пагодны ў палях:*

*Каб задумлівы вецер ад вёскі*
*Гук адзіны да слыху данёс,*
*У якім не чутно адгалоскаў*
*Чалавечага жалю і слёз.*

## ЗІНЕ

*Ты яшчэ на шчасце маеш права,*
*Я ж — у ланцугу бяды маёй.*
*Я памру — мая пагасне слава,*
*Не здзіўляйся — не тужы аб ёй.*

*Не ў хаўрусе я з бліскучым светам,*
*І табе скажу як прад канцом:*
*Шкодзілі мне бойкі быць паэтам,*
*Заміналі песні быць байцом.*

*Хто, аддаючы пашану веку,*
*І жыццё за мэту аддае,—*
*Лёс аблегчыць брату чалавеку,—*
*Толькі той сябе перажыве...*

Пераклаў М.ФЕДЗЮКОВІЧ.

Падпіска—93. Наш індэкс 63129

*Ліставанне*

## ВЫ НЕ ПЕРАФАРБАВАЛІСЯ

Разам з дэмакратычнымі пераўтварэннямі мы дапялі і да выбараў. Выбіраем усё: у якую чаргу стаць, каб яна была меншая, выбіраем дэпутатаў, каб яны былі лепшыя, урэшце — выбіраем і газету, каб яна была цікавейшая й несла паболей інфармацыі, што патрэбна чытачу. Безумоўна, дэмакратыя — гэта добра. Але, спадзяюся, для многіх кожную пятніцу пытанне "якую газету набыць?" не стаіць — толькі "Чырвоную змену". І гэта — не ліслівасць. Бо ёсць і недахопы. Але пра гэта — пазней.

Радуе, што "Чырвонка" не перафарбоўвалася дэмакратычным пэндзлем, як гэта хуценька зрабілі некаторыя выданні пасля вядомых жнівеньскіх падзей. Бо памятаем мы, чытачы, вострыя матэрыялы пра супрацьстаянне КПБ і БНФ, праўду пра 30 кастрычніка, артыкулы пра НКУСаўскую сістэму знішчэння, калі яшчэ шлюзы публічнасці былі мала адчынены й дазвалялася праўда ў пэўных рамках. Хораша, што гэтую традыцыю — даносіць праўду — газета працягвае й зараз. Праўда, хацелася б пажадаць выданню не паўтараць чужыя памылкі — г.зн. пісаць у адным ключы, адмятаючы іншыя погляды. Глядзіш — часам адна цэнзура змяніла другую... Выданне, што ганьбіла той жа белачырвона-белы сцяг, на наступны дзень пасля афіцыйнага зацвярджэння змяшчае яго выяву на першай паласе. Мяне заўжды дзівіць, як людзі могуць так хутка мяняць свае погляды, устаноўкі, перакананні. Ці ў гэтым і ёсць сапраўдны плюралізм? Хацелася б, каб "Чырвонка" не захварэла на "адзінагалоснае словавыяўленне". Тады ад газеты адвернецца вялікая колькасць прыхільнікаў. Зараз жа ў тыднёвіку можна прачытаць разнастайныя матэрыялы "за" і "супраць".

Ня варта скочвацца і ў масавую культуру, "крышачку сексу". Сюды ж варта аднесці й вядомую "тydню", якая паспяхова спачыла ў рэдакцыйнай папцы. Пэўна ж, лепей працягваць выпускі "Нотнага аркуша", "Крыніцаў", якія сапраўды выхоўваюць добры густ, знаёмяць з набыткамі маладых творцаў, выхоўваюць патрыётаў свайго краю. Смялей выступайце супраць маскультуры! Прайдзіце па камерцыйных кнігарнях, відэасалонах, паглядзіце на плакаты ў пераходах! Вам, а не каму іншаму варта паставіць заслону безгустоўнасці, гвалту, люмпенізацыі. Прапагандуйце (вядома ж, умела, а не навязваючы) культуру — беларускую й сусветную. Бо "Чырвоная змена" — маладзёжная газета, накіраваная на выхаванне беларускіх грамадзянаў.

**Лявон ПАЛЬСКІ,**
**Мёрскі раён.**

---

По незалежачых ні ад каго прычынах гэтыя людзі аказаліся як бы

# ПАМІЖ СВЯТЛОМ І ЦЕМРАЙ

часткова ці поўнасцю страціўшы кантроль над сабой і сваімі ўчынкамі. На іх месцы мог апынуцца кожны.

Адносіны да журналістаў тут крыху насцярожаныя (ці здалося?). У свой час "удар пад дых" нанесла Беларускае тэлебачанне. Станіслаў Саковіч, намеснік галоўнага ўрача па медыцынскай частцы, дагэтуль не можа забыць сюжэт, паказаны ў праграме "Крок". Перагнулі, што называецца, журналісты палку. Прыехалі, паздымалі, не разабраўшыся (або свядома?) тое-сёе з "інтэр'ера" (краты на вокнах касы, напрыклад), а потым прыдумалі адпаведны каментарый. Маўляў, турма для хворых і поўнае бяспраўе асобы.

І нядзіўна. Калі памятаеце, гадоў пяць назад разгарнулася цэлая кампанія па барацьбе за правы людзей з псіхічнымі парушэннямі, якая арганічна ўплялася ў барацьбу за дэмакратыю ўвогуле. З'явіліся разгромныя артыкулы ў "Огоньке" і "Комсомольской правде", дзе выкрываліся норавы і парадкі "жоўтых" дамоў і злачынствы медыкаў, якія дапамагалі правасуддзю "сплаўляць" на бестэрміновае лячэнне непажаданых. Было і даказана. Хто стане адмаўляць? Ды і ці маглі тады лічыць нармальным чалавека, які асмеліўся ўсумніцца ў вартасцях вялікага сацыялістычнага эксперыменту? Або — яшчэ горш — падвяргаў іх крытыцы?

Менавіта на гэтай хвалі 5 студзеня 1988 года выйшаў у свет указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР "Аб умовах і парадку аказання псіхіятрычнай дапамогі", які ўяўляў сабой адмаўленне ад старых, "рэпрэсіўных" метадаў накіравання на лячэнне і пераход да прынцыпу добраахвотнасці. Кожнаму чалавеку, што трапляў у прыёмны пакой псіхіятрычнай бальніцы, прадастаўлялася права самому вырашаць, згаджацца на лячэнне або адмаўляцца ад яго. Безумоўна, калі вышэйпамянёны не ўяўляў небяспекі для сябе альбо іншых. У адваротным выпадку ў дзеянне ўступаў параграф выключэння аб абавязковым лячэнні (але толькі пасля таго, як неабходнасць гэтага пацвярджалася камісіяй з 3-х спецыялістаў).

Заступнікі за дэмакратыю і барацьбіты за роўныя правы псіхічна хворых і здаровых маглі спаць спакойна. На месцах пачалося ўвасабленне пастановы ў жыццё. А жыццё, як вядома, уносіць свае карэктывы. Нават ва ўказы Вярхоўных Саветаў.

Цудоўна, высакародна, гуманна прапаноўваць хвораму чалавеку права на выбар. Але ўсё гэта добра і дарэчы там, дзе да псіхічных захворванняў адносяцца, як... скажам, у нас да грыпу ці ВРЗ, дзе псіхіятра наведваюць часцей, чым стаматолага, і гэта не выклікае двухсэнсоўных усмешак калег і знаёмых. Але ў тым і справа, што нам да гэтага яшчэ далёка. Грамадская думка адназначная: трапіў у "Навінкі" — пажыццёва застанешся дурнем. Нават калі прыступ больш не паўторыцца. А ўжо калі паўторыцца... Ці не таму многім, каго выпісваюць адсюль, выдаюць бальнічны ліст з "канспіратыўным", завуаліраваным дыягназам? І нават пасля выпіскі працягваюць "апякаць", маральна падтрымліваць, абараняць былога пацыента ад яго непасрэднага начальства, якое толькі і шукае прычыну, каб пазбавіцца ад "псіха".

Сёння, здавалася б, прытупіўся напал барацьбы за чысціню радоў пацыентаў у псіханеўралагічных клініках. Адпала сама набходнасць "засмечваць" іх здаровымі людзьмі. Які сэнс цяпер? Усіх, хто гаворыць гадасці пра існаваўшыя і існуючыя парадкі, ад грамадства не ізалюеш. Наадварот. Часы мяняюцца, і тыя, хто гаворыць пра гэта гучней і больш, трапляюць не ў "жоўты" дом, а ў "белы". Так што "ўпякаць", здаецца, няма каго і няма за што.

А вось колькасць хворых, якія самі жадалі б лячыцца ў стацыянары, сёння прыкметна паменшылася. І ў звычайную бальніцу не з вялікай ахвотай ідуць людзі, а сюды — і тым больш.

Чалавек з парушанай псіхікай, трапіўшы ў прыёмны пакой Рэспубліканскай псіхіятрычнай, часта катэгарычна адмаўляецца ад лячэння. І калі на гэтым жа настойваюць яго родныя — ніхто не можа затрымаць чалавека ў клініцы даўжэй за выкананне пэўных фармальнасцей. (Паўтараю, калі ён не з'яўляецца сацыяльна небяспечным.) Што потым адбываецца з чалавекам, чые паводзіны ў прынцыпе абсалютна непрадказальныя? Урач, аформіўшы па жаданню родных адмаўленне ад шпіталізацыі, поўнасцю знімае з сябе ўсю адказнасць (што абсалютна справядліва і адпавядае закону). І, глядзіш, праз два-тры дні зноў прымае таго ж чалавека, але ўжо ў больш абвостраным стане. Акрамя таго, хвароба зацягваецца, хранізуецца і можа прывесці да інваліднасці.

*Здаецца, такой разгубленасці перад чыстымі лістамі паперы я не адчувала ніколі. З аднаго боку — "закрытая зона", месца, куды доўгія гады не ступала нага журналіста. З другога — грамадства, якое прывыкла адносіцца да людзей з пашкоджанай псіхікай як да ізгояў... Магчыма, менавіта па гэтай прычыне Рэспубліканская псіхіятрычная клінічная бальніца вынесена за мяжу горада, у якім жывём мы з вамі. Не "чокнутыя". Не "звар'яцелыя". Нармальныя. Нармальныя?*

Гэта — у лепшым выпадку. У горшым магчыма трагедыя.

Адзінае, што застаецца ўрачу-псіхіятру, — пераконваць. Спакойна, стрымана, аргументавана. Дзейнічае, але не заўсёды. Прыкладна ў 70 працэнтах выпадкаў. Астатнія пакідаюць прыёмны пакой. Але парушэнні псіхікі не знікаюць самі сабой і ў большасці сваёй не паддаюцца самалячэнню. Яны маюць розныя формы і стадыі і схільныя прагрэсіраваць, калі своечасова не звярнуць на іх увагу... Ды толькі не гэта палохае пацыентаў і іх незгаворлівых родных. Што будзе потым? Што скажуць сябры і знаёмыя? Як аднясуцца на рабоце? Вось пытанні, якія хвалююць многіх значна больш, чым уласнае здароўе.

* * *

Прызнаюся, што і сама, калі ехала сюды, адчувала нейкае хваляванне. У жанчыны з унушальных памераў сумкай спытала, на якім прыпынку выйсці. Яна растлумачыла і абыякава-будзённа, хутчэй з ветлівасці, пацікавілася: "У вас таксама там родныя?" "Не-не, што вы...", — паспяшалася я адхіліць яе здагадкі. І каб зусім ужо не ўзнікла ніякіх падазрэнняў, дадала: "Па справе. Да галоўурача". "А ў мяне там сын. (Яна прапусціла міма вушэй маё нетактоўнае "што вы!") Разумнік, памочнік, на рабоце ўсе яго любяць. І трэба ж — пачаў сыходзіць з дому... Мы з бацькам з ног збіваліся, шукалі, плакалі, прасілі. Думалі, сам зразумее, супакоіцца. А аказалася — гэта хвароба. Добра, што людзі параілі да ўрачоў звярнуцца. Ездзім цяпер з бацькам па чарзе. Спачатку неяк няёмка было перад суседзямі. Сын — і ў "Навінках". А потым нічога, прывыклі. Такое жыццё, што з кожным можа здарыцца. Яшчэ невядома, дзе больш ненармальных гэтых — тут, ці там, у горадзе..."

Антонім "волі" — "няволя", або турма. Але ніякіх турэмных атрыбутаў я тут не ўбачыла, нават славутыя рашоткі не мазолілі вочы. Хаця ў мэтах бяспекі саміх жа хворых у адной з палат для "вострых" іх усё ж паставілі. На пятым паверсе. (Самагубствы не выключаны і ў фармальна здаровым грамадстве. Тут, дзе канцэнтруюцца людзі з рознымі псіхічнымі адхіленнямі, — тым больш...) Не гуманна? Ушчамляе, калі прыгадаць "Крок", правы асобы? Але гуманнасць



гуманнасці — розніца. Мы, здаецца, бяром накірунак на нейкую абстрактную, на гуманнасць па форме, а не па зместу. Магчыма, таму, што яна самая танная і не патрабуе ніякіх затрат? Ці таму, што ўжо прывыклі ва ўсім (трэба ці не трэба) ківаць на Захад, на правы грамадзян "у іх". Забываючы (ці не ведаючы), што "ў іх" на адно псіхіятрычнае аддзяленне, у якім лечыцца 20—25 чалавек, прыпадае, не лічачы загадчыка і 2—3 урачоў-псіхіятраў, яшчэ 2—3 урачы-стажоры, 2—3 "інтэрна", 15—17 медсясцёр і некалькі санітарак. А ў нас, акрамя загадчыка і 1—2 урачоў, яшчэ 5—6 медсясцёр (на 4 змены) і столькі ж санітарак. У лепшым выпадку. І гэта — на 60—70 хворых.

Як чалавек староннi, я дазваляю сабе ўжываць гэта слова — хворы. У бальніцы ўрачы стараюцца як мага радзей ім карыстацца. Ці зусім абыходзіцца без яго, каб лішні раз не траўміраваць сваіх пацыентаў. У гэтым свеце ўвогуле ўсё вельмі адносна. Выразную мяжу паміж псіхічна здаровым і хворым чалавекам правесці цяжка, і пераход з аднаго стану ў другі часцяком адбываецца непрыкметна. У прынцыпе, усе мы, на жаль, — патэнцыяльныя пацыенты падобнай установы. (Калі не псіхіятрычнага аддзялення, дык ва ўсякім разе аддзялення неўрозаў). Ёсць жа такое паняцце, як сацыяльная дэбільнасць. Гэта калі ў адносінах псіхікі ў чалавека ўсё нармальна, але элементарнае пытанне ставіць яго ў тупік. Сціранне вышэйпамянёнай мяжы паміж псіхічным здароўем і нездароўем у падобнага "гома сапіенс" калі і адбудзецца, дык наўрад ці будзе заўважана іншымі. Немедыцынская, непадуладная лячэнню, пажыццёвая тупасць сацыяльнага дэбіла ў дзесяткі разоў страшнейшая за той адзіны прыступ, з-за якога іншы нармальны чалавек трапляе ў псіхіятрычную бальніцу...

Ці вылечваюцца падобныя захворванні? На жаль, не заўсёды. Адны цяжка паддаюцца ўздзеянню лекавых прэпаратаў, другія вельмі запушчаныя. Але, безумоўна, ёсць і станоўчыя вынікі.

Хворыя, выйшаўшы з крызіснага стану, ахвотна дапамагаюць медсёстрам і санітаркам даглядаць цяжкіх і "новенькіх", сочаць за парадкам у палатах, супакойваюць тых, хто занадта гучна смяецца ці плача, або вельмі ўжо настойліва чапляецца з пытаннямі да ўрача.

Галоўнае пытанне, натуральна — калі мяне выпішуць? Тэрмін лячэння тут даволі працяглы. І ледзь ачуняўшы, пацыент пачынае прасіцца дадому. Медперсанал прытрымліваецца іншага погляду: курс лячэння неабходна прайсці поўнасцю, інакш праз некалькі дзён пасля выпіскі магчымы рэцыдыў.

Атмасфера для псіхічна здаровага чалавека тут даволі напружаная. Але здаровыя ў аддзяленне не трапляюць, а тыя, хто папраўляецца, і ўрачы ўжо прывыклі. Да Станіслава Лазаравіча падыходзіць жанчына і зусім сур'ёзна прапаноўвае: "Вазьмі мяне замуж. Я нараджу табе сына..." І падобных "цікавых" прапаноў за дзень — не адна і не дзве. Рэакцыя на іх спакойная, добразычлівая. У большасці ўрачоў. І гэта не паказуха. (Я ж хадзіла без блакнота і ручкі, у белым халаце.)

Дарэчы, нярэдкія пацыенты псіхіятрычнай бальніцы — прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі: інжынеры, мастакі, пісьменнікі, вучоныя... Прайшоўшы курс лячэння, яны не сталі горш вынаходзіць, канструяваць, маляваць. У адной з мужчынскіх палат бачыла на сцяне карціну, напісаную былым хворым, — жаночы партрэт на фоне нацюрморта. Крыху незвычайнае спалучэнне, але ж карціну маляваў Мастак, чыя творчасць не паддаецца законам стандартнага мыслення.

З наступленнем халадоў "кантынгент" тут стане больш разнастайным. З'явяцца бомжы, самыя сапраўдныя, — людзі без прозвішча, без дому і без работы. Адных прывязе "хуткая дапамога", другія прыйдуць самі з мэтай хоць пару дзён пажыць у цяпле і нармальна паесці. Іх не гоняць, тым больш што ўпершыню за многія гады ў бальніцы з'явіліся свабодныя месцы. Некаторыя хворыя, якія не маюць ні родных, ні сродкаў і здольнасцей да існавання, застаюцца тут надоўга, выконваючы нескладаную работу па гаспадарцы.

Вось, уласна кажучы, і ўсё. Развітваючыся са Станіславам Лазаравічам, успомніла словы сваёй спадарожніцы: з кожным гэта можа здарыцца, такое жыццё... І на ўсякі выпадак сказала яму "да пабачэння".

**Наталля Стралкова.**




*Упершыню ў гэтым годзе я наведаў Камароўскі рынак ў ліпені. Нічога не купіўшы, накіраваўся дадому. Маю ўвагу прыцягнуў раптоўны крык, які падняла маладая жанчына, што бегла наперадзе мяне. Яна крычала ў адчаі, просячы дапамогі ў затрыманні злодзея. Ён абакраў яе сярод белага дня на вачах усіх. Злачынец — малады хлопец — уцякаў сярод людзей. На заклік пацярпеўшай: "Мужчыны, затрымайце злодзея!" — ніхто не рэагаваў. Сама ж яна дагнаць не змагла. Пачуццё горычы ахапіла мяне. На жаль, работніка міліцыі побач не аказалася. Тэрыторыя рынку вялікая. Пра дружыннікаў не магло быць і размовы — іх даўно ў горадзе ў колькасці 39 тысяч "ліквідавалі".*

*Эпізод на рынку, як у люстэрку, выяўляе становішча спраў у сталіцы РБ са злачыннасцю і абароненасцю насельніцтва ад яе.*

Сродкі масавай інфармацыі кожны квартал інфармуюць нас аб сотнях і тысячах злачынстваў, паведамляючы статыстычныя звесткі і многія сумныя прыклады. Мы ўжо прывыклі да гэтых паведамленняў, нас перасталі здзіўляць не толькі наяўнасць злачынстваў, але і рост іх з квартала ў квартал, з года ў год.

Чаму ўсё гэта адбываецца? Людзі, як правіла, стан правапарадку ў грамадстве звязваюць з работай міліцыі. Гэта натуральна. Калі злачыннасць расце, ніхто не можа сказаць, што міліцыя працуе добра, што яна спраўляецца са сваімі задачамі. Але вось парадокс. Маючы магчымасць назіраць за работнікамі міліцыі ў працэсе выканання імі службовых абавязкаў на грамадскім пункце аховы парадку ў мікрараёне "Цэнтр" Мінскага раёна сталіцы на працягу многіх гадоў, пераконваюся ў паляпшэнні яе кадравага саставу за апошнія гады. Прыкладам могуць служыць капітаны міліцыі В.Новаш, В.Пуляеў, лейтэнант міліцыі І.Асінскі і іншыя. Пра кожнага можна было б сказаць шмат добрага. Невыпадкова, у іх адрас няма скарг ад грамадзян, яны карыстаюцца аўтарытэтам і павагай. Такіх прыкладаў шмат.

Калі супрацьпастаўляеш такія прыклады са становішчам спраў, міжвольна прыходзіш да вываду: у росце злачыннасці бачыш не віну такіх работнікаў, а перш за ўсё іх бяду. У міліцыі многа ўнутраных праблем. Дарэчы, яна як ніколі перагружана. Участковыя інспектары міліцыі абслугоўваюць адміністрацыйныя ўчасткі з насельніцтвам 5—7 тысяч і больш замест належных 3—4.

Няма сакрэту, што перагружаны і іншыя службовыя асобы ўнутраных спраў. Напрыклад, следчы вядзе 78 спраў пры норме 35—40, а работнік крымінальнага вышуку перакрывае норму ў 3 разы. Такія ўмовы непазбежна ўплываюць на якасць вывадаў па злачынствах, а за кожным з іх — лёс канкрэтных людзей!

Калі мы назіраем перагрузку ў рабоце міліцыі, міжвольна пры гэтым адчуваем недахоп у яе кадрах. Такое становішча не змянілася і пасля таго, як з бюджэту горада ўжо выдзелена ў 1991—1992 гадах на дадатковую колькасць міліцэйскіх кадраў 6 млн рублёў. Можна і далей павялічваць штат. Але ці дазволіць зрабіць гэта гарадскі бюджэт?

Далей: Якасць работы міліцыі, яе эфектыўнасць залежыць ад матэрыяльна-тэхнічнай аснашчанасці. Апошняе відавочна адстае ад патрабаванняў абстаноўкі. Як вядома, нельга разлічваць на перамогу ў барацьбе з праціўнікам, які ўзброены танкамі, калі сам маеш усяго толькі кавалерыю.

Справа ўжо дайшла да таго, што важнейшая дзяржаўная структура, якая стаіць на абароне інтарэсаў самой дзяржавы і бяспекі грамадзян, апынулася ў вельмі цяжкім становішчы. І цяпер яе работнікі вымушаны шукаць выйсце ў забеспячэнні за кошт... добраахвотных дабрачынных узносаў!

Павысіць актыўнасць кожнага жыхара горада ў барацьбе са злачыннасцю — гэта патрабаванне дня, якое можна рэальна выканаць. Эпізод на Камароўцы, як у фокусе, паказвае, наколькі абуральная ў нас пасіўнасць і абыякавасць да таго, што адбываецца вакол нас.

У горадзе ёсць дамы, у якіх жыхары аднаго пад'езда на працягу многіх гадоў не ведаюць адзін аднаго. Замкнутасць, раз'яднанасць, ізалянавасць ад суседзяў пазбаўляе іх маральнай падтрымкі ў штодзённым жыцці і ўзаемадапамогі. Апошняя асабліва неабходна пры абароне ад кватэрных злодзеяў і ў іншых надзвычайных абставінах.

Чым цяжэй абстаноўка, тым большая патрабуецца актыўнасць чалавека і грамадскіх арганізацый. У нас жа атрымліваецца наадварот. Калі людзі будуць жыць ізалявана адзін ад аднаго, то ніколі не выйдуць з крызісу, а ў выпадку барацьбы са злачынцам асуджаюць сябе на паражэнне. Не дапусціць падобнага — вось роля грамадскіх, у тым ліку праваахоўных арганізацый. У дадзеным выпадку размова ідзе аб створанай у Мінску асацыяцыі "Насельніцтва за бяспеку".

Што думаюць людзі аб ёй? Якая яе перспектыва? З размоў высвятляецца карціна, якая пакуль не зусім абнадзейвае. Адна частка субяседнікаў наогул нічога не чула пра яе, хоць асацыяцыя пачала існаваць з 9.04.92 — рэгістрацыі ў гарсавеце народных дэпутатаў, другая — выказвае скептычны погляд наконт чарговага новаўвядзення.

Што ўяўляе ўжо створаная новая асацыяцыя?

Як вядома, працаздольнасць грамадскага аб'яднання залежыць ад яго кіраўніцтва. На чале асацыяцыі стаяць вопытныя людзі з высокім грамадскім і службовым становішчам, што немалаважна. Прэзідэнт — Уладзімір Васільевіч Ярмошын, намеснік старшыні гарвыканкама, начальнік штаба ДНД горада.

Рабочы орган — праўленне ўзначальвае маёр міліцыі Генадзь Станіслававіч Шумскі, ст.інспектар аддзела прафілактычнай службы УУС, народны дэпутат.

Непасрэдна ўдзельнічаюць у арганізацыі яе работы гарвыканкам, УУС, 30 яе заснавальнікаў і ўжо нямала ўступіўшых у яе членаў.

Задача асацыяцыі — унесці пасільны ўклад у арганізацыю самаабароны насельніцтва. Самацёкам гэта задача не вырашыцца. Каб людзі выйшлі са спячкі і прынялі ўдзел у канкрэтных справах, неабходны ініцыятыўны арганізатар. У праваахоўных органах і мясцовых Саветах, як паказвае вопыт, рукі да гэтага не даходзяць. Асацыяцыя актывізуе работу на прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях, грамадскіх фарміраваннях праваахоўнага накірунку.

Сваю працу яна будзе будаваць у цесных узаемаадносінах з праваахоўнымі органамі, мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў, прафсаюзамі.

Спачатку асацыяцыя мае патрэбу ў фінансаванні. Усвядоміўшы яе неабходнасць, прадпрыемствы, будзем спадзявацца, унясуць пасільную грашовую дапамогу. На жаль, не ўсе кіраўнікі працоўных калектываў адгукаюцца на падобныя справы. Гэта відаць было ў адносінах да работы ДНД. Невыпадкова яны ў выніку распаліся.

Калі асацыяцыя набярэ неабходную сілу, яна пачне сама зарабляць і пяройдзе на самаакупнасць.

Абнадзейвае, што гарвыканкам, УУС, некаторыя прадпрыемствы згадзіліся працаваць разам.

Галоўнае, каб раённыя Саветы народных дэпутатаў, іх выканкамы, прафсаюзы дапамагалі нам.

Жыццё апошніх гадоў паказала: прадпрыемствы неахвотна выдзяляюць сродкі. Пакуль няма закону, які абавязваў бы іх гэта рабіць на дадатковую прафілактыку правапарушэнняў. Да таго ж яны самі бедныя. Але вышэй сказанае патрабуе праявіць шчодрасць бедняка, зыходзячы са здаровага розуму і маральнага абавязку аднаго перад адным.

У інтарэсах справы асацыяцыя чакае канкрэтных прапаноў ад усіх,хто заклапочаны барацьбой са злачыннасцю і згодзен супрацоўнічаць з намі. Наш адрас:

220004, Мінск, вул.Рэспубліканская, 24. Тэлефоны: 23-08-93, 23-10-55.

Разліковы рахунак 609466 у Цэнтральным аддзяленні Акцыянерна-камерцыйнага Белпрамбудбанка ў Мінску.

**М.Галашаў,**
**член Асацыяцыі**
**"Насельніцтва за бяспеку",**
**адзін з яе заснавальнікаў.**

## ІНФА — КРЫМ

### БУДНІ БУТЫРКІ

Месца, дзе знаходзіцца Бутырская турма, густанаселены помнік архітэктуры XVIII стагоддзя, большасць масквічоў ведае чыста тэарэтычна. І дзякуй Богу. Але, памятаючы старадаўнюю прымаўку, што раіць ад торбы і ад турмы не заракацца, напэўна, кожны чалавек, якога падштурхоўвае трывожная цікаўнасць, жадаў бы, хоць праз вочка, але ўбачыць, што ж робіцца за турэмнымі кратамі. Тым больш, што доўгія гады нашаму грамадству гэта ведаць было не дазволена. Зараз сюды могуць трапіць журналісты. Часткова таму, што сёння высокі будынак следчага ўпраўлення на Новаслабодскай вуліцы, які шырмай адгароджвае турэмны замак ад чужых поглядаў, не можа засланіць такія ж вялікія праблемы, з якімі сутыкаецца турэмнае ведамства. Сёння і Бутырка просіць ратунку.

Бутырская турма – следчая. Праз яе камеры праходзіць у год каля 20 тысяч чалавек. Некаторыя затрымліваюцца тут на гады, калі следства зацягнецца. Пастаянна ж у Бутырцы ўтрымліваецца каля 4-х тысяч чалавек, уключаючы 200 асуджаных і адбываючых тэрмін у турме ў якасці гасаблугі. Цяжкасці, з якімі сутыкаецца сёння судаводства, – недахоп памяшканняў, народных засядацеляў, сакратароў – адбіваюцца і на турмах, камеры якіх перапоўнены тымі, хто чакае судовага прыгавору. У Бутырцы на сённяшні дзень больш за тысячу "лішніх людзей", каму і прылегчы – праблема. У агульных камерах цесна, некаторым прыходзіцца спаць на падлозе, або па чарзе, на выбар.

"Душа не ляжыць крычаць на кожным рагу пра нашы беды, тым больш, калі ўся краіна на парозе беднасці, але неабходна ж нешта рабіць, а адны мы не выцягнем", – гаворыць начальнік Бутыркі, 47-гадовы падпалкоўнік Г.М.Арэшкін, які вымушаны круціцца, як вавёрка ў коле. Амаль за горла хапае неабходнасць капітальнага рамонту, якога не было два стагоддзі. Генадзь Мікалаевіч задумаў рамантаваць бальніцу, царкву ў турме аднавіць (пакуль свяшчэннік прапаведуе ў камерах). Грошай, якія выдзеліла Бутырцы дзяржава, хопіць можа толькі на харчаванне падследным. Дарэчы, паводле сведчання тутэйшых старажылаў, карміць тут пачалі значна лепш.І гэта ў наш час! Чаго гэта каштавала – ведае толькі турэмнае начальства.

Умовы ўтрымання пад вартай павінны быць чалавечымі. Простая аксіёма, і Генадзь Мікалаевіч абедзвюма рукамі – за! Дужы, энергічны чалавек, з новай, што называецца плыні. Што ў яго сілах – робіць, і зняволеныя за яго гарой стаяць, бо адчуваюць: начальнік іх спрабуе хоць што-небудзь перайначыць.

Турмам таксама неабходны грошы, але іх чарга да дзяржаўнай "кармушкі" так склалася, і з гэтым цяжка спрачацца, – дзесьці ў хвасце (хоць, дарэчы, у 80-я гады – і з таго часу мала што змянілася – МУС за кошт прадпрыемстваў, на якіх працавалі зняволеныя, было адным з самых прыбытковых ведамстваў. Але ўвесь даход – каля 7–8 мільярдаў – забіраўся ў дзяржбюджэт). Спонсары – нелюбімае слова начальніка Бутыркі, але і дзяржава, зразумела, не дойная карова. Да рэвалюцыі турмам, зняволеным дапамагалі шматлікія дабрачынныя таварыствы. Хто дапаможа турмам сёння? Тут жа сядзяць нашыя людзі, якія ў рэшце рэшт вернуцца дамоў, у сям'ю. А вось якімі вернуцца?

**В.Шутаў.**



НА ЗДЫМКУ: Агульная камера ў Бутырцы. Цесната, духата, мука... Да 50 чалавек у адной "хаце". Многія вымушаны спаць па чарзе – нараў не хапае.
Фота А.Булдакова (ІТАР-ТАСС).

# АЗБУКА ЗДАРОЎЯ

## Нуль на фазе

### Не за морамі, а побач

Не сакрэт, што многія жанчыны, асабліва ў юным узросце, пераканаы: шчасце трэба шукаць дзесьці далёка, за морамі, за лясамі; менавіта там чакае жаданы "прынц" – адзіны на ўсё жыццё.

Фінскі сацыёлаг Эліна Хавіо нанесла па гэтых марах знішчальны ўдар. Вынікі яе апытанняў і анкетавання ў многіх гарадах краіны паказалі, што 45 працэнтаў бясспрэчна шчаслівых шлюбаў заключаны, так бы мовіць, на рабочым месцы. Трэць апытаных мужчын прызналіся, што пакахалі дзяўчат, з якімі разам працавалі. У першую чаргу гэта менеджэры, архітэктары, журналісты, канторскія служачыя, будаўнікі, урачы-тэрапеўты... А вось непадатлівымі на каханне ў працоўнай сферы перш за ўсё аказаліся ўрачы-дантысты, медыцынскія сёстры, хімікі і палітыкі.

### Надзейнае сэрца

Жанчыны, чыім мужам пашанцавала з ростам, могуць не вельмі непакоіцца з прычыны магчымага інфаркту ў мужа (калі, вядома, яны самі не давядуць яго "да кропкі"). Амерыканскія вучоныя зрабілі вывад: чым вышэйшы чалавек, тым меншая рызыка сардэчнай недастатковасці. Мужчыны ростам ніжэй чым 170 см больш пакутуюць ад хвароб сэрца, чым тыя, хто хаця б на 15 см вышэйшы. Для першых верагоднасць захворвання складае 70 працэнтаў. Кожныя 2,5 см росту зніжаюць гэтую верагоднасць на 3 працэнты.

Дарэчы, самым высокім сярод нашых суайчыннікаў-мужчын лічыцца Габрыэль Эставао Маньяне з Мазамбіка, чый рост – 245 см. Рост былога баскетбаліста Аляксандра Сізаненкі, які жыве зараз у Самары, – 240 см. Ну, а рэкорд, зафіксаваны ў чалавечай гісторыі, належыць амерыканцу Роберту Уодлоу, які жыў у першай палове нашага стагоддзя: яго рост перавышаў 272 см.

### Пра легкадумнасць і вернасць

Калі ўжо размова зайшла аб рэкордах, варта адзначыць, што рэкорд па колькасці заключаных шлюбаў (у монагамным свеце) належыць былому баптысцкаму святару амерыканцу Гліну Уолфу, які паслядоўна жаніўся 27 разоў, прычым з дзвюма са сваіх жонак ён заключаў шлюб двойчы. Паводле слоў самога "мнагажэнца", агульная колькасць дзяцей у гэтых шлюбах складала 41.

Самым жа верным мужам можна лічыць індыйца Тэмулы Бхікаві Нарымэна, які памёр у 1940 годзе і быў у адным шлюбе 86 год. Праўда, тут трэба ўлічыць тое, што ў момант вяселля жаніху было ўсяго 5 гадоў. Такія раннія шлюбы заключаліся па згодзе паміж роднымі з мэтай захавання кланавых сувязей або спынення варожасці паміж сем'ямі.

### І сказаў філосаф...

Вядома, што жанчынам неабыякава, што пра іх думаюць мужчыны. А можа, лепш пра гэта не ведаць, паколькі мужчынская думка часам бывае непрадказальная?

Э. Канту, напрыклад, аднойчы задалі пытанне: якія жанчыны больш верныя – бландзінкі або брунеткі?

– Сівыя,– не задумваючыся адказаў філосаф.

## ЗАГОЙВАННЮ РАН СПРЫЯЕ... БУЛЬБА

Бульба займае ганаровае месца ў харчаванні, важная яна і ў дыеце. Па перыядах года мяняецца энергетычная каштоўнасць бульбы і ўтрыманне ў ёй розных элементаў. Бульба ўтрымлівае шмат сахарыдаў, галоўным чынам крухмалу, бялкоў, вады. Бульба — каштоўная крыніца вітаміна С. Вітамін С накопліваецца ў асноўным пад лупінай і лепш захоўваецца ў печанай і хутка прыгатаванай смажанай бульбе. Іншымі вітамінамі яна не так багатая, але ўтрымлівае карацін, вітаміны В2, РР, В6, пантацэнавую, фоліевую кіслоты, вітаміны К і Н, мае слізі. Бульба займае важнае месца па ўтрыманню мінеральных рэчываў, перш за ўсё калію і фосфару. Склад мінеральных рэчываў мае прынцыповае значэнне, таму бульба добра дапаўняе мяса, зніжаючы кіслотнасць прадуктаў. У бульбе адносна мала кальцыю, патрэбу ў якім папаўняюць малако, тварог, сыр.

У бульбе ёсць таксама лекавы эфектыўны алантаін, які спрыяе загойванню ран і валодае мачагонным дзеяннем. У народзе для лячэння ўжывалі свежанацёртую бульбу, накладваючы яе на раны і апёкі. І зараз яшчэ дзенідзе скарыстоўваецца свежаадціснуты бульбяны сок у якасці лекаў пры захворванні страўніка, звязаных з павышанай кіслотнасцю.

Бульбу можна выкарыстоўваць і як касметычны сродак. Бульбяное пюрэ з малаком гоіць патрэсканую скуру на руках. Яна выкарыстоўваецца і ў масках, напрыклад, варaная бульба, расцісн утая з трускаўкамі і малаком, супакойвае скуру твару і робіць яе пругкай. Пры лёгкіх захворваннях верхніх дыхальных шляхоў удыхаюць пары над неаблупленай варанай бульбай. Слізісты адвар з бульбянога крухмалу даюць пры запаленні стрававальнага тракта.

У кулінарыі бульба мае шырокае прымяненне — ад салодкіх да салёных страў. Пры прыгатаванні ежы важна захаваць яе біялагічную каштоўнасць, што забяспечвае максімальна хуткае прыгатаванне — без лішняга вымочвання і здзення паветра. Усё больш у медыцынскіх мэтах рэкамендуецца скарыстоўваць бульбу разам са здаровай, гладкай без зелені лупінай (клятчатка, вітаміны, мінеральныя рэчывы) у перыяд ад уборкі ўраджаю да новага года і чаргаваць на ўжыванне печаным і вараным на пару выглядзе.

### МАЛАДАЯ ПЕЧАНАЯ З ЛУПІНАЙ БУЛЬБА СА СМЯТАНАЙ

*1 кг маладой бульбы, 100 г смятаны, 4 сталовыя лыжкі сметанковага масла, соль, 3 сталовыя лыжкі кропу.*

Бульбу добра прамыць і запячы ў духоўцы або загорнутай у фальгу — на агні. Падаваць, парэзаўшы на 4 часткі, са свежым сметанковым маслам, заліўшы смятанай і пасыпаўшы кропам.

Замена:

са смятанай размяшаць тварог, выліць на бульбу і пасыпаць кропам або зялёнай цыбуляй.

### БУЛЬБЯНЫ ГУЛЯШ (5 порцый)



*600 г бульбы, 2—3 сталовыя лыжкі шпіку, 2 цыбуліны, 20 г мукі, 1 сталовая лыжка салодкага перцу, кмен, соль, чорны перац, часнок, маяран.*

На тлушчы падсмажыць здробленую цыбулю, засыпаць яе мукой і прыгатаваць запраўку. Дадаць салодкі перац, заліць вадой, размяшаць, кінуць абабраную, нарэзаную на кавалкі бульбу, па густу дадаць соль, кмен, чорны перац. Давесці да гатоўнасці на маленькім агні, запраўвіць часнаком і маяранам.

Замена:

замест бульбы дадаць жменю свежых грыбоў;

на 1 порцыю (на 1 чалавека) дадаць 50 г морквы або гарошку разам з бульбай;

100 г смятаны або малака;

паварыць (200 г), нарэзаны свежы перац, у канцы дадаць 100 г свежых нарэзаных памідораў і не кіпяціць;

на 1 чалавека дадаць 50 г вяндліны.



### ПЕЧАНАЯ БУЛЬБА З ЧАСНАКОМ

*1 кг бульбы, алей, соль, сметанковае масла, часнок.*

Бульбу з лупінай нарэзаць уздоўж на 4 ці 8 частак. Паставіць у гарачую духоўку на бляху, змазаную алеем. Печаную бульбу скласці ў посуд, пакласці адразу ж сметанковае масла, па густу дадаць шмат часнаку, соль, патрэсці і падаваць.

### БУЛЬБЯНЫЯ ДРАНІКІ

*1 кг маладой бульбы, 200 г мукі, 1 яйка, 50 г малака, кмен, молаты чорны перац, часнок, маяран, тлушч.*

Бульбу памыць, абабраць, дробна надзерці, дадаць муку, яйка, соль, спецыі. Перамяшаць. Цеста тонкім слоем разліць па патэльні, змазанай тлушчам, альбо пячы на чыгуннай бляce. Гатаваць на слабым агні, каб дранікі добра прапякліся з двух бакоў. Часам дранікі пякуць (з двух бакоў) у духоўцы. У некаторых краінах у цеста для бульбяных дранікаў дадаюць дрожджы, даюць цесту падысці, пякуць у духоўцы на моцна змазанай тлушчам блясе і падаюць да грыбнога соуса (грыбы, соль, кмен, чорны перац, залітыя цыбульнай запраўкай). Часам да гатовых бульбяных дранікаў падаюць тушаную капусту з вэнджанінай.

### ЦЁПЛАЯ БУЛЬБЯНАЯ САЛАТА

*800 г бульбы, 2 цыбуліны, соль, чорны перац, воцат, алей або падсмажаны шпіг.*

Звараную ў мундзіры бульбу абабраць і наскрыляць. У салатніцы пасаліць яе, дадаць чорны перац, воцат, раслінны алей і пакласці скваркі са свіной саланіны, а таксама нарэзаную сырую цыбулю. Перамяшаць і падаваць са звычайнымі ці адбіўнымі катлетамі.



### ФАРШЫРАВАНАЯ БУЛЬБА

*12 буйных бульбін, сметанковае масла.*

*Начынка: 300 г фаршу, выразаная сэрцавіна бульбін, яйка, соль, чорны перац, маяран, часнок, кмен;*

*2 плаўленыя сыркі, 100 г вэнджаніны, выразаныя знутры часткі бульбін, яйка, соль, чорны перац, марыян, часнок, кмен.*

Бульбу памыць, змазаць і паставіць у мундзірах пячы ў гарачую духоўку. Калі бульба будзе амаль гатовая і ўспухне лупіна, асцярожна выразаць яе. Вынутыя сярэдзінкі бульбы змяшаць з дадаткамі, усё добра размяшаць відэльцам. Полыя бульбіны змазаць маслам і шчыльна напоўніць адной з начынак. Затым паставіць у гарачую духоўку і хутка (20 хвілін) запячы.

**По матэрыялах кнігі Д.Ланска "З лесу і агароду — з вясны да зімы", падрыхтавала Н.ПЛЫТКЕВІЧ.**



## ГАЗЕТНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ФІРМА

# "БЕЛАЯ РУСЬ"




падрыхтавала да друку буквар на беларускай мове — кнігу-размалёўку "Вясёлая азбука". Яна будзе выдадзена ў канцы жніўня 1992 года.

Фірма "Белая Русь" прымае заказы ад арганізацый, школ, гарадскіх і раённых аддзелаў народнай адукацыі на пастаўку аптовых партый дадзенага выдання. Кошт па дамоўленасці.

Спяшайцеся, тыраж кнігі абмежаваны.

*Па даведкі звяртайцеся па тэлефоне: 32-14-33, 32-11-43.*
*Наш адрас: 220041, г.Мінск, пр-т Ф.Скарыны, 79, фірма "БЕЛАЯ РУСЬ".*

---

Наборна-выдавецкае бюро штотыднёвіка "ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА" прапануе прадпрыемствам, арганізацыям і прыватным асобам свае паслугі па камп'ютэрнаму набору тэкстаў і вырабу арыгінал-макетаў газет, рэклам, іншай паліграфічнай прадукцыі.

*Тэлефон: 32-02-63,*
*факс: 32-02-63.*

---

В связи с утерей просим считать недействительными печать и штамп Минского городского научно-практического общества акушеров-гинекологов и неопатологов.



---

Газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь" рыхтуе да выпуску маляўнічы насценны каляндар на 1993 год, які плануецца выдаць вялікімтыражом. Арыгінальнае аздабленне календара прадугледжвае магчымасць размяшчэння рэкламы.

Калі Вы зацікаўленыя ў поспеху Вашай фірмы, калі Вы жадаеце, каб пра Вас ведалі ад Брэста да Уладзівастока, змяшчайце сваю рэкламу ў нашым календары. Цэны даступныя.



Патэлефануйце нам ужо сёння, і мы зможам дамовіцца.

*Тэл. у Мінску 32-14-33.*
*Факс 32-02-63.*

---

**Рэкламны аддзел штотыднёвіка "Чырвоная змена" прапануе сваю газетную плошчу для рэкламных аб'яў. Размяшчэнне рэкламы ў нашым выданні будзе для вас каштаваць нашмат танней, чым у любым іншым.**

*Нашы тэлефоны: 321-433, 321-354. Факс: 320-263.*

---

## КІНААФІША

### "ХРОСНЫ БАЦЬКА"

Самы сенсацыйны амерыканскі фільм пачатку сямідзесятых гадоў "Хросны бацька" вытворчасці кінакампаніі "Парамаунт пікчэрс"выходзіць, нарэшце, на айчынныя кінаэкраны. Яго паставіў вядомы рэжысёр Фрэнсіс Форд Капола паводле свайго сцэнарыя, які ён напісаў у сааўтарстве з Марыа П'юза. У аснову карціны пакладзены аднайменны раман Марыа П'юза, што распавядае пра жыццё сям'і Карлеёнэ – буйных фігур мафіі, якія вызнаюць свой кодэкс гонару і пяшчотна клапоцяцца пра блізкіх, але разам з тым з'яўляюцца жорсткімі забойцамі.

"...Я веру ў Амерыку" – першыя словы, якія гучаць у гэтым фільме. Іх вымаўляе не прэзідэнт краіны, не буйны палітычны дзеяч і не вядомы мастак. З гэтай фразы пачынае сваю просьбу аб пакаранні вінаватага сціплы чалавек, які прыйшоў па дапамогу да Дона Віта Карлеёнэ, "хроснага бацькі" італьянскай мафіі ў Нью-Йорку. І Дон Віта, нягледзячы на вяселле сваёй любімай дачкі, гатовы адгукнуцца на заклік блізкага свайго, тут не толькі буйны мафіёзі, кіраўнік гангстэрскага клану, і нават не проста чалавек, а нібыта Гасподзь Бог, які ўсталёўвае парадак у сваім свеце...

Асабістую цікаўнасць да карціны выклікае ігра знятых у ёй галівудскіх зорак – Марлона Брандо, Ал Пачына, Джэймса Кана, Роберта Дзювала, Стэрлінга Хейдана, Джона Марлі і іншых.

### "ЛОХ — ПЕРАМОЖЦА ВАДЫ"



Так называецца каляровая мастацкая кінастужка, створаная кінематаграфістамі студыі "Траецкі мост" кінастудыі "Ленфільм". Яна знята паводле матываў эпасу "Шыі". Аўтар сцэнарыя і рэжысёр – Аркадзь Цігай.

... Паўлу, карэннаму жыхару горада на Няве, гадоў пад трыццаць. Ад сваіх аднагодкаў ён нічым асаблівым знешне не адрозніваецца. Але ў яго востры вынаходніцкі розум і ўмелыя рукі. Ёсць у героя і свая маленькая справа: разам з сябрам ён мае маленькае атэлье, дзе з радыёадходаў робіць для дзяцей электронныя гульні.

Аднойчы да Паўла пад'ехаў на "Жыгулях" нахабны рэкецір. Колькі ні ўпэўнівае яго герой, што прыбытку няма, адны падаткі, той патрабуе вялізную суму. Герой выганяе нахабніка з майстэрні.

А потым прыйшла жорсткая расплата. Разбурана атэлье, насмерць забіты сябар, які там начаваў. Узрушаны Павел вырашае адпомсціць...

У гэтай карціне прысутнічаюць і элементы дэтэктыва, і камедыі, і жорсткага гангстэрскага фільма.

Цікава праводзяць свае ролі Сяргей Курэхін, Уладзімір Яромін, Ларыса Барадзіна, Аляксандр Глазун, Алег Касавенка і іншыя акцёры.

### "ЯК ЦЕНІ ГОЙСАЮЦЦА Ў НАВАЛЬНІЦУ"

Гэтую каляровую мастацкую кінастужку стварылі таксама кінематаграфісты ЗША.

...Фелоніюс Піт ад прыроды летуценнік. Ён ужо даўно жадае стаць паэтам. Над яго пісьмовым сталом вісіць партрэт чароўнай дзяўчыны, пра якую ён пастаянна марыць. Фелоніюс, або Фела, як называюць яго сябры, і ўявіць сабе не можа, што ягоныя мары хутка ператворацца ў кашмарную рэчаіснасць...

Дзяжурны рэдактар А. АГІБАЛАВА.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК СМБ.
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і зверстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Алена АГІБАЛАВА, Сяргей БАЛЦЭВІЧ (адказны сакратар), Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ (першы нам. гал. рэдактара), Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Наталля СТРАЛКОВА, Кузьма ШАПЛЫКА.

*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытат, эканамічных звестак, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, каб у матэрыялах не ўтрымлівалася звестак, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.*

*Рэдакцыя рукапісы не рэцэнзуе і не вяртае.*

Рэдакцыя газеты "Чырвоная змена" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы. Даведкі па тэлефонах 32-12-82,32-50-01.

Зак. № 36. П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12